14 кастрычніка 2016 | № 39 (504)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

На экране «Валынь»
стар. 9

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10039

4 **«ЗАХАВАННЕ ЎЛАДЫ ПАД КАНСТЫТУЦЫЙНЫМІ ДЭКАРАЦЫЯМІ»**

Лукашэнка загаварыў пра новы рэферэндум. НЧ паразмаўляў з доктарам юрыдычных навук і былым суддзёй Канстытуцыйнага суда Міхаілам Пастуховым, які, дарэчы, прарочыў новы плебісцыт яшчэ ў 2014 годзе

5 **«МЯНЕ ЎРАЗІЛА, ШТО АМБАСАДАР ШВЕЦЫІ ВЕДАЕ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ...»**

Вядоўца, кухар і бізнесовец — прадстаўнікі гэтых прафесій у нашай рубрыцы «Я — беларускамоўны»




6–7 **РЭФЕРЭНДУМ–2004: ГЭТА НЕ НАШ ДЗЕНЬ!**

Улічваючы вялікую ролю ў рэферэндуме прапаганды і спецслужбаў, не варта скідваць з рахункаў і іншыя абставіны



11 **ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАМУ ЗГУРТАВАННЮ ВАЙСКОЎЦАЎ**

12–13 кастрычніка 1991 года адбыўся Устаноўчы сход Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ)

# «Я стаміўся, я сыходжу»?

## Грамадства стаілася ў чаканні зменаў у Канстытуцыю



Сяргей ПУЛЬША

«Аляксандр Лукашэнка стаміўся быць прэзідэнтам. Каранацыя прызначаная на чацвер». Чамусьці гэты анекдот заўсёды ўзгадваецца, калі чуеш пра чарговыя змены ў Канстытуцыю.

«Нам трэба стварыць групу мудрацоў, юрыстаў, якія прааналізуюць Асноўны закон. І калі трэба будзе, мы на гэта [змяненне Канстытуцыі] пойдзем», — нечакана паведаміў афіцыйны лідар, выступаючы перад парламентарыямі старога і новага скліканняў.

Варта было Аляксандру Рыгоравічу заікнуцца пра змены ў Канстытуцыю, як адразу ж пачалі ўзнікаць канспіралагічныя тэорыі. Адны кажуць, што Лукашэнка рыхтуе сцэнар «пераемнік». Маўляў, прэзідэнт будзе абірацца парламентам, праз які можна прасунуць таго самага «пераемніка». Называюць нават персону — сына Лукашэнкі і ягонага дарадцу па нацыянальнай бяспецы Віктара.

Мяркуюць, што менавіта з гэтай нагоды Лукашэнка прапусціў у парламент дзвюх апазіцыянерак — Ганну Канапацкую і Алену Анісім. Маўляў, тады з рэферэндумам будзе прасцей: апазіцыянеркі нададуць рашэнню пра яго правядзенне легітымнасць. Адпаведна, можна будзе казаць, што ўсё грамадства, нават «адмарозкі», падтрымала ідэю змен у Асноўны закон.

Канешне, Канапацкая і Анісім, хутчэй за ўсё, будуць галасаваць супраць рэферэндуму, аднак іх галасы згубяцца сярод іншых 108 дэпутатаў. Дый прапаганда не зверне на іх «супраць» аніякай увагі. Адзінае, што могуць зрабіць гэтыя жанчыны, — пайсці шляхам дэпутатаў групы «Рэспубліка» ўзору 2004 года, якія абвясцілі галадоўку ў тым ліку і супраць планаў Аляксандра Лукашэнкі абірацца бясконцую колькасць разоў. Выніку тая галадоўка не дала, але ўвагу да рэферэндуму, безумоўна, прыцягнула.

Нібыта, замаскіраваць пытанне абрання прэзідэнта парламентам збіраюцца зноў-такі пытаннем пра смяротнае пакаранне, як у 1996 годзе. А для ўзбуджэння дыскусіі ўлада, нібыта, будзе праводзіць прапагандысцкую кампанію за яе адмену. Самыя гарачыя галовы нават заявілі, што нядаўняя трагедыя ў мінскім гандлёвым цэнтры «Еўропа», калі псіхічна хворы маладзён пасек сякерай і парэзаў бензапілой жанчын, адбылася не проста так, а стварае неабходны фон напярэдадні таго самага рэферэндуму.




Але ці ёсць падставы меркаваць, што Лукашэнка нагуляўся ў прэзідэнцтва? Што ён стаміўся і марыць пра нармальную забяспечаную старасць? Наўрад ці.

Па-першае, перадача такога інструменту, як абранне прэзідэнта, парламенту — вельмі небяспечная справа. Гэта азначае пашырэнне ролі заканадаўчага органа. Лукашэнка не для таго дваццаць гадоў выбудоўваў сістэму сваіх, як ён казаў, «царскіх паўнамоцтваў», каб з кімсьці імі дзяліцца.

Гэта, дарэчы, тычыцца і пераемніка. Лукашэнка неаднаразова казаў, што яго дзеці на пераемнікаў не цягнуць. А дзяліцца паўнамоцтвамі з кімсьці, хай нават і набліжаным, — гэта не пра Аляксандра Рыгоравіча.

Па-другое, сёння парламент адзін — заўтра другі. Канешне, ён можа быць колькі заўгодна падкантрольным, але кантраляваць нават 110 дэпутатаў — справа цяжкая. Раптам нехта з іх пачне сваю гульню? Нават у цалкам залежнай палаце могуць мець месца розныя меркаванні. Больш за тое, з цягам часу альтэрнатыўныя думкі могуць узнікаць у аднаго і таго ж чалавека!

Напрыклад, узяць такога дэпутата, як Мікалай Самасейка. Ён некалькі гадоў выступаў апанентам прыхільнікаў адмены смяротнага пакарання ў Беларусі. Так шмат выступаў, што здаецца заразіўся «варожымі» ідэямі, і зараз ужо кажа, што ён — за адмену смяротнага пакарання. Перашкодаю гэтаму кроку ёсць «воля народа», выказаная на рэферэндуме. А некалькі дзён таму Самасейка ўвогуле дагаварыўся да крамолы. Кажучы, што ў тых краінах, якія адмянялі смяротнае пакаранне, гэта было зроблена праз палітычную волю ўлады, а не праз плебісцыт, ён сказаў: «Магчыма, не трэба было праводзіць рэферэндум».

Як не трэба? Вось просты прыклад таго, як літаральна на вачах «надзейны кадр» змяняе свае погляды на ледзь не супрацьлеглыя.

> **Перадача парламенту такога інструменту, як абранне прэзідэнта — небяспечная справа**

І па-трэцяе. Аляксандр Рыгоравіч заўсёды ганарыцца тым, што ён абраны «ўсенародна», што за яго галасуюць людзі, якія ледзь не ў коме — сілаю волі прыходзячы ў прытомнасць, каб толькі аддаць голас любімаму кіраўніку. З гэтага вынікае яго легітымнасць. А ці будзе такая легітымнасць, калі кіраўнік краіны будзе абірацца парламентам? Наўрад ці. І Лукашэнка ўжо не зможа казаць, што ён — «усенароднаабраны».

Да такіх рэчаў Аляксандр Рыгоравіч надзвычай чуллівы, як, дарэчы, любы аўтарытарны кіраўнік.

Увогуле, ці патрэбны рэферэндум, каб прыняць нейкія рашэнні пра пашырэнне паўнамоцтваў парламента, пра смяротнае пакаранне, пра нешта яшчэ? Наўрад ці. Гэта ўсё можна зрабіць і без плебісцыту, калі мець жаданне. І Лукашэнка гэта выдатна разумее.

Цікавую цытату ў той жа прамове пачуў блогер Віктар Малішэўскі. «Калі жадаеце, я падпішу ўказ, дэкрэт», — кажа кіраўнік дзяржавы дэпутатам. У прынцыпе, гэта ўсё, што патрэбна ведаць пра заканадаўчую ўладу ў Беларусі.

І гэтым людзям Лукашэнка аддасць права абіраць кіраўніка дзяржавы?

# Праводзіць рэформы, а не націскаць на кнопкі

Арцём ЛЯВА

**Ганна Канапацкая распавяла пра свае планы, намеры і дзеянні ў якасці дэпутата на прэсавай канферэнцыі, зладжанай разам з Анатолем Лябедзькам.**

Канапацкая паведаміла, што ў бліжэйшыя дні будуць фармавацца парламенцкія камісіі. Ужо вызначана, што іх будзе 14. Ганна хацела б прымаць удзел у працы як мінімум дзвюх з іх: камісіі па бюджэце і фінансах і камісіі па эканамічным развіцці.

Першачарговае значэнне Ганна Канапацкая надае пытанню зменаў выбарчага заканадаўства, а таксама рэфармаванню эканомікі.

«Мы падчас выбарчай кампаніі і пасля яе казалі, што ў першую чаргу хочам звярнуць увагу на тое, што ў краіне адсутнічаюць свабодныя выбары. Мы хочам вярнуць людзям права голасу, каб у нас былі сапраўдныя дэпутаты і сапраўдны заканатворчы орган. Па выніках круглага стала, праведзенага АГП, арганізаваная працоўная група, якая рыхтуе прапановы па зменах у Выбарчы кодэкс. Другі накірунак — эканамічная рэформа. Мы хочам дэкрыміналізаваць эканамічныя дачыненні і выключыць з Крымінальнага кодэксу такое паняцце, як «ілжэпрадпрымальніцтва», — зазначыла Канапацкая.

Дэпутатка таксама выступіла ў падтрымку беларускай культуры і мовы, а таксама паабяцала адстойваць свабоду СМІ.

На сённяшні момант Ганна Канапацкая вызначылася са штатным памочнікам, які будзе працаваць на акрузе. Таксама яна будзе ініцыяваць павелічэнне колькасці пазаштатных памочнікаў дэпутата да 14 — па колькасці камісій, якія будуць працаваць у ПП, альбо дамагчыся дазволу, каб дэпутат меў кансультантаў-дарадцаў, высокакваліфікаваных спецыялістаў і экспертаў, якія неабходныя для правядзення даўно наспелых рэформаў. Яны нічым не абцяжараць бюджэт, бо будуць працаваць бясплатна, але будуць мець пэўныя паўнамоцтвы.

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька дадаў, што нядаўна сфармаваная праваабарончая... правацэнтрыстамі Асамблея народных прадстаўнікоў будзе калектыўным дарадцам і памочнікам Канапацкай.

Падрыхтаваны зварот Ганны Канапацкай да сваіх выбаршчыкаў, які будзе агучаны пасля таго, як пройдуць пэўныя працэдуры па пацвярджэнні мандату. Тады ж Ганна агучыць імя свайго штатнага памочніка.

# Вольга Абрамава: Палітыка санкцый неэфектыўная

Генадзь КЕСНЕР

**Да нядаўняга часу міжнародныя парламенцкія структуры ігнаравалі дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. І вось цяпер карціна мяняецца. Як мяркуе дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання і Палаты прадстаўнікоў 2-га і 3-га скліканняў Вольга Абрамава, зараз адбываюцца дэманстратыўныя змены ў стаўленні да Беларусі.**

— У невідочным плане на ўзроўні прыняцця рашэнняў камунікацыі з Палатай прадстаўнікоў адбываліся пастаянна. У тым ліку і з асобнымі дэпутатамі, якія мелі рэпутацыю дэмакратычна арыентаваных. Нават у той час, калі беларускі парламент стаў звацца Нацыянальным сходам, ён ніколі не быў напоўніцу выключаны з сістэмы міжнародных зносінаў. Дастаткова шмат было закулісных стасункаў альбо стасункаў на індывідуальным узроўні, і гэтыя стасункі давалі пэўныя вынікі.

***— Калі вы былі ў Палаце прадстаўнікоў 2-га склікання, як і Уладзімір Навасяд, па просьбе парламента бралі ўдзел у паездцы ў Вену, з якой прывезлі так званае «пустое крэсла».***

— Гэта было ўпершыню. Мы абодва былі дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Мы чатыры гады былі ў групе апазіцыйных дэпутатаў, якія ў сваёй большасці (я асабіста каля трох месяцаў) выступалі за неабходнасць санкцыяў. А вось калі мы сталі дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў, мы паехалі ў Вену, дзе правялі каласальную колькасць сустрэчаў. Калі пайшла гаворка пра тое, хто зойме крэсла, дагэтуль займанае дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання (а прадстаўнік ЗША заявіў, што хацеў бы бачыць на гэтым месцы менавіта дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання), то адна з удзельніц ад расійскага боку сказала — дык вось яны, Абрамава і Навасяд, дэпутаты менавіта таго Вярхоўнага Савета. Пры ўсёй колькасці сустрэчаў было прынята ўсё ж радыкальнае рашэнне, і мы прывезлі «пустое крэсла», пасля чаго «вакансія» была запоўнена ўжо зусім іншым чынам.

Палітыка санкцыяў неэфектыўная альбо малаэфектыўная ў дачыненні да такой краіны, як Беларусь. Я шмат разважала і прыйшла да высновы, што такая палітыка вядзе перад усім да большай кансалідацыі насельніцтва вакол лідара, вакол улады. Гэта самае першае наступства. Не трэба было выключаць Беларусь з сістэмы міжнародных дачыненняў, трэба было знайсці іншыя механізмы ўздзеяння, якія дазвалялі б пакінуць Беларусь у арбіце міжнародных сувязяў, найперш з адукацыйнымі мэтамі. Таму я магу толькі вітаць любыя варыянты ўцягвання Беларусі ў сістэму еўрапейскіх стасункаў.

***— А што рабіць з Саветам Еўропы і Парламенцкай Асамблеяй (ПАСЕ), у якой Беларусь нават не мае статуса спецыяльна запрошанай?***

— Пакуль мы не ўявілі мараторый на смяротнае пакаранне, пра што можа ісці гаворка датычна Савета Еўропы?! Гэта абсалютна дурніцкая, упёртая і неразумная пазіцыя беларускага кіраўніцтва ў гэтым пытанні. Я, дарэчы, публічна выступіла ўпершыню па гэтай праблеме з трыбуны парламента ў 2001 годзе на слуханнях па знешняй палітыцы. Я сказала, што нам тэрмінова трэба ўводзіць гэты мараторый. Мяне падтрымаў яшчэ дэпутат Нарэйка, і было прынята рашэнне аб запрашэнні дэпутатаў ПАСЕ і правядзенні парламенцкіх слуханняў па гэтым пытанні. Так што трэба прыбіраць усе перашкоды, разграбаць заканадаўчыя завалы, якія існуюць на шляху ўцягвання Беларусі ў агульнаеўрапейскія працэсы, і паслядоўна рухацца ў гэтым накірунку.

# Моладзь за ўшанаванне Ларысы Геніюш

**#Геніюш2016 — кампанія Моладзі БНФ за рэабілітацыю Ларысы Геніюш. На першым этапе актывісты арганізацыі збіралі подпісы за яе рэабілітацыю і будуць збіраць і надалей, але разам з тым пачынаецца другі этап кампаніі.**

На гэтым этапе актывісты моладзевай арганізацыі паспрабуюць дамагчыся перайменавання вуліцы ў гонар славутай паэткі, усталявання помніка Ларысе Антонаўне, а таксама правядуць шэраг мерапрыемстваў у яе гонар.

Кіраўнік моладзевай арганізацыі Юрый Лукашэвіч накіраваў просьбу да старшыні Зэльвенскага райвыканкаму пра перайменаванне адной з вуліц у гонар Ларысы Геніюш, наданне паэтцы статуса ганаровага жыхара Зэльвы, а таксама з просьбай правесці вечарыны памяці, літаратурныя чытанні імя Ларысы Геніюш у вучэбных установах Зэльвы і выказаў гатоўнасць ад імя арганізацыі дапамагчы з правядзеннем такіх мерапрыемстваў.

У выпадку адмовы актывісты ўсё роўна будуць праводзіць мерапрыемствы на сваіх пляцоўках, працаваць над папулярызацыяй творчасці Ларысы Антонаўны Геніюш і ўшаноўваць памяць пра яе ўсімі магчымымі сродкамі.

Таксама ў хуткім часе прадстаўнікі моладзевай арганізацыі паспрабуюць дамагчыся сустрэчы з прадстаўнікамі Міністэрства культуры, каб перадаць свае прапановы па кампаніі.

Звяртаемся з просьбай да ўсіх грамадскіх, палітычных арганізацый, якія гатовыя дапамагчы ў зборы подпісаў, арганізацыі мерапрыемстваў, далучыцца да кампаніі і разам дамагчыся не толькі рэабілітацыі Ларысы Геніюш, але і папулярызацыі яе творчасці сярод мільёнаў беларусаў. Жыве Беларусь!

**Прэс-служба Моладзі БНФ**

# Яднацца супраць несправядлівых прысудаў

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**Прадстаўнікі ініцыятывы «Матчын рух 328» і апазіцыйных партый вырашылі распачаць сумесныя дзеянні супраць несправядліва асуджаных па артыкуле «незаконны распаўсюд і ўжыванне наркатычных сродкаў».**

Праблема злоўжыванняў міліцыі, звязаных з артыкулам 328 Крымінальнага кодэкса, вымусіла блізкіх асуджаных аб'ядноўвацца. «Матчын рух 328» ставіць на мэце перагляд справаў па наркотыках, якія сфабрыкаваныя альбо не маюць пераканаўчых доказаў віны. Круглы стол з гэтай нагоды адбыўся ў Мінску, і разам са сваякамі ў ім удзельнічалі чальцы АГП, БХД і Руху «За Свабоду».

Падкідванне наркотыкаў, агаворы з боку замоўленых сведак, катаванні для дачы паказанняў, пераўтварэнне ўжывальнікаў наркотыкаў у распаўсюднікаў — той набор сродкаў, якімі карыстаецца міліцыя для фабрыкавання шэрагу спраў па наркотыках. Звароты ў праваахоўныя органы, суды, Палату прадстаўнікоў і Адміністрацыю прэзідэнта плёну не далі. Сваякі асуджаных вырашылі шукаць дапамогі з боку партый і грамадскіх рухаў.

«Канечне, ёсць і справядліва вынесеныя прысуды. І такія маці шукаюць у нас маральнай падтрымкі», — сказала кіраўніца «Матчынага руху 328» Ларыса Жыгар. Шмат сем'яў асуджаных, ад якіх адвярнуліся не толькі знаёмыя, але і сваякі. Спраўляцца з трагедыяй ім таксама лягчэй разам з людзьмі, якія апынуліся ў такой жа сітуацыі. Аднак улады адмовілі ў рэгістрацыі аб'яднання. «Усё падаецца так, быццам мы стварэны, каб абараняць наркабаронаў. Мы супраць наркотыкаў», — адзначыла Ларыса Жыгар.

«У нашым грамадстве, калі казаць пра прысуды па наркотыках, схільны верыць прапагандзе, а не разбірацца з кожнай справай асобна — вінаваты чалавек ці не. І каб змяніць стаўленне грамадства да праблемы, каб шукаць праўды і справядлівасці — трэба быць адкрытымі», — звярнуўся да сваякоў асуджаных сябра АГП Дзмітрый Кавалгін.

Павел Севярынец (БХД) заклікаў шукаць хаўруснікаў, якія таксама ў курсе гэтай праблемы. Напрыклад, ініцыятыва «Маці супраць наркотыкаў». Разам маці з дзвюх арганізацый маглі б, на думку Паўла Севярынца, аб'яднацца для вырашэння агульнанацыянальнай праблемы, якой стала наркаманія.

А прадстаўніца БХД Вольга Кавалькова прапанавала праблему «Матчынага руху» ўзняць на іншы ўзровень: «Канечне, ніхто да пары не думае, што праблема наркаманіі можа яго напаткаць. Як і ніхто не застрахаваны ад несправядлівых прысудаў. Людзей, якія сутыкаюцца з судовым бязмежжам, становіцца ўсё болей. Таму трэба прыцягнуць як мага больш людзей, каб вырашаць праблему наогул — справядлівасці суда».

Пачаць дзейнічаць арганізатары круглага стала вырашылі з правядзення канферэнцыі па праблемах распаўсюджвання наркотыкаў. А таксама прыцягнуць да супрацы юрыстаў і праваабаронцаў. У перспектыве БХД і іншыя арганізацыі маюць намер праводзіць грамадскія кампаніі за перагляд спраў незаконна асуджаных паводле артыкулу 328. «Аднак наша стратэгічная мэта – аб'яднаць усе несправядліва асуджаныя групы, якія пацярпелі ад рэжыму, каб спыніць бязмежжа, якое чыніць праваахоўная сістэма», — заявіў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Эйфарыя пераможцаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Безумоўна, галоўная падзея тыдня — гэта перамога Беларусі ў нафтагазавай вайне. А як яшчэ назваць гэтую падзею? Так, перамаглі. Але нам, на жаль, не да канца расказалі, на якіх умовах.**



Нагадаем перадгісторыю. Недзе ўвесну беларускія ўлады абурыліся, што мы плацім за газ зашмат. І, згодна з пагадненнямі па ЕАЭС, мы пачалі плаціць па справядліваму (выключна на наш погляд) тарыфу, а не па кантрактнаму. Зразумела, «Газпром» абурыўся. Перамовы наконт выканання кантракту ні да чаго не прывялі, і Расія зрэзала нам пастаўкі нафты ў трэцім і чацвёртым квартале года. У адказ абурыўся Аляксандр Рыгоравіч і прыгразіў выйсці з ЕАЭС. А Беларусь у аднабаковым (зноў жа) парадку падняла кошты на транзіт расійскіх энерганосьбітаў праз сваю тэрыторыю. Ну, як падняла? Мела намер.

Паламаць сваю любімую цацку Пуцін не дазволіў. Ён памарынаваў Лукашэнку, але ў выніку перамоў да 10 кастрычніка (Беларусь збіралася падвысіць кошт на транзіт з 11-га) бакі прыйшлі да пагаднення. Нашай краіне ўсё ж давядзецца пагасіць запазычанасць перад «Газпромам», — 281 мільён долараў. Але фактычная цана газу для Беларусі ў расійскіх рублях будзе зніжана аж з 1 ліпеня (то бок, заднім чыслом) прыкладна на 30 працэнтаў. І гэтыя грошы (па падліках расійскага «Коммерсанта» — 25 мільярдаў расійскіх рублёў), вернуцца ў Беларусь.

Каб пагасіць пазыку «Газпрому», Расія выдасць яму міжбюджэтную кампенсацыю са свайго ж бюджэту. Прычым, Мінск і Масква дамовіліся пра міжбюджэтныя кампенсацыю аж да 1 ліпеня 2019 года. Расійскі бюджэт за беларускі газ будзе пералічваць «Газпрому» каля 1 мільярда долараў штогод. Улічваючы, што «Газпром» — адзін з асноўных напаўняльнікаў расійскага бюджэту, атрымліваецца, што грошы за беларускі газ ён плаціць сам сабе.

Адзінае, пакуль незразумела, што такое «міжбюджэтная кампенсацыя». Ці павінны мы калі-небудзь потым сплаціць гэтыя грошы Расіі, альбо гэта будзе «беззваротна, то бок дарма»? Калі дарма, то беларусы няблага ўладкаваліся. Грошы за газ «Газпром» плаціць сам сабе, а паліць гэты вуглевадарод Беларусь.

Зразумела, што Расія пасля дасягнення дамоўленасцей узнаўляе пастаўкі нафты ў Беларусь у ранейшых аб'ёмах, а наша краіна ў адказ адмаўляецца ад павышэння тарыфаў на транзіт.

Дэ-факта, Беларусь дамаглася таго, чаго жадала. На гэтым фоне Аляксандр Рыгоравіч паспрабаваў развіць поспех, 10 кастрычніка нагадаўшы і пра дагэтуль не рэалізаваныя, на яго думку, прынцыпы, на якіх павінна грунтавацца Саюзная дзяржава: «Мы нічога лішняга не патрабуем ад Расійскай Федэрацыі. Мы патрабуем, каб нашы суб'екты гаспадарання і нашы людзі былі ў роўных умовах у саюзе Беларусі і Расіі згодна з літарай і духам дамовы пра саюзнае будаўніцтва. (...) Гэта будзе галоўным пытаннем у далейшых маіх перамовах з Пуціным».

Насамрэч, ад такіх заяваў я б перасцярогся. Таму што гэтая зброя страляе ў абодва бакі. Калі «нашы людзі» будуць у «роўных умовах» у РФ, то і іх павінны быць у такіх жа ўмовах тут. А ўлічваючы, што эканомікі двух краін розныя не толькі па памеры і структуры, але і па форме, то як зрабіць роўныя ўмовы?

На эйфарычным расійскім фоне такі ж неспадзяваны энтузіязм дэманструе кіраўнік Нацбанка Павел Калаур. Па яго словах, крэдыт, які можа даць нам Міжнародны валютны фонд, можа быць нават большы за агучаныя раней 3 мільярды долараў. «Акрамя квоты, якая вызначана для Беларусі, аб'ём фінансавання вызначаецца і іншымі фактарамі: станам аплатнага балансу за год і праграмай мерапрыемстваў. Гэтая лічба можа вар'іравацца ад 3 да 3,4 мільярда долараў», — удакладніў Калаур.

Па яго словах, праграма для атрымання крэдыту яшчэ ўдакладняецца, а ў лістападзе да нас прыедуць тэхнічныя місіі Сусветнага банка і Міжнароднага валютнага фонду.

Праўда, аналагічная місія МВФ з'ехала ад нас літаральна два тыдні таму. І пасля гэтага Лукашэнка заявіў, што, хоць і разумее патрабаванні МВФ, але не дазволіць «рабіць беларускі народ жабракамі». Так што падстаў для аптымізму ў Калаура менш, чым яму б хацелася.

Сапраўды, навошта нам МВФ, каб рабіць народ жабракамі? Пакуль што ўрад выконвае такую задачу і без дапамогі гэтага аўтарытэтнага фонду. Днямі віцэ-прэм'ер Беларусі Наталля Качанава сказала, што ўрад шукае крыніцы для павышэння зарплаты настаўнікам, якая, па яе словах, складае прыкладна 87 працэнтаў ад памеру сярэдняга заробку па краіне.

Крыніцай павышэння заробкаў педагогам, на думку віцэ-прэм'ера, з'яўляецца «эфектыўная работа ўстаноў адукацыі і, дзе гэта неабходна, іх аптымізацыя». Дзеля гэтага яна чакае «яшчэ больш эфектыўных прапаноў ад Міністэрства адукацыі».

«Аптымізацыя» — гэта звыклы бюракратычны сінонім слова «скарачэнне». То бок, каб падвысіць заробак настаўнікам, частку з іх давядзецца звольніць. Гэта пры тым, што педагогаў у беларускіх школах крытычна не хапае, і гэтая тэндэнцыя трымаецца некалькі гадоў запар — асабліва ў дачыненні да настаўнікаў малодшых класаў.

І яшчэ адна цікавая навіна. Ужо з верасня на беларуска-расійскім пункце пропуску «Рэдзькі» — «Чырвонае» («Чырвоная Горка»), размешчаным на трасе Брэст—Масква пад Смаленскам, расійскія пamежнікі перасталі пускаць у Расію грамадзян ЕС. Памежная служба ФСБ Расіі матывавала гэта тым, што на мяжы Расіі і Беларусі не існуе міжнародных пунктаў пропуску (МПП) праз якія маглі б уязджаць замежныя грамадзяне.

Памежная служба ФСБ Расіі кажа, што грамадзяне ЕС, якія едуць у Расію цягнікамі, рэйсавымі аўтобусамі альбо на ўласных аўто, нават пры наяўнасці віз павінны патурбавацца аб тым, каб у іх дакументах быў штамп, які пацвярджае легальнае перасячэнне мяжы з Расіяй. Іх уезд праз Беларусь будзе лічыцца парушэннем правілаў, за якое прадугледжаны штраф і выправаджэнне з краіны.

Дэ-факта, гэта азначае стварэнне пунктаў пропуску на беларуска-расійскай мяжы і ўзнаўленне памежнага кантролю. Лукашэнку прыйдзецца ўкапаць назад той памежны слуп, які ён выкапаў з Чарнамырдзіным у 1995-м.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Дзмітрый Паліенка

**Актывіст руху веласіпедыстаў выйшаў на волю адразу пасля заканчэння судовага працэсу.**



Аднак Дзмітрыя Паліенку прызналі вінаватым па абодвух інкрымінаваных абвінавачваннях і прысудзілі да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады (гэта значыць, умоўна).

Тое, што хлопца вызваляць, было зразумела ўжо ў першы дзень судовага працэсу, калі пракурор Алег Юркевіч выказаў пазіцыю дзяржаўнага абвінавачвання адносна пакарання актывіста. Ён прасіў менавіта такое пакаранне, якое даў Паліенку суддзя Валер Есьман.

Нагадаем, Паліенка быў жорстка затрыманы яшчэ 29 красавіка ў Мінску разам з іншымі ўдзельнікамі велапрабегу «Крытычная маса». У выніку грубых дзеянняў АМАПа, было затрымана 6 чалавек, якіх моцна збілі і адвезлі ў РУУС Цэнтральнага раёна.

Пазней чацвёра з затрыманых падпісалі пратаколы аб парушэнні правілаў дарожнага руху і аказанні супраціўлення супрацоўнікам органаў унутраных спраў і ДАІ, а супраць дваіх былі распачатыя крымінальныя справы па арт. 364 Крымінальнага кодэкса.

Паліенку абвінавачвалі па двух артыкулах: у гвалце ці пагрозе гвалту да супрацоўніка органаў унутраных спраў і ў вырабе і распаўсюдзе парнаграфічных матэрыялаў. «Распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў» выявіўся ў публікацыі на старонцы ў сацыяльных сетках знакамітага інцыдэнту на «Белмуз-ТВ» у 2013 годзе, калі пакрыўджаны інжынер тэлеканалу выдаў порна ў прамы эфір.

## Уладзімір Макей

**Міністр замежных спраў ледзь не паставіў пад пагрозу пацяпленне адносін Беларусі з ЗША.**



Падчас афіцыйнага візіту ў Варшаву, распавядаючы журналістам пра шматвектарную міжнародную палітыку Беларусі, Уладзімір Макей нечакана назваў ЗША геапалітычным ворагам.

«Мы лічым, што ў нашых нацыянальных інтарэсах развіццё нармальных добрасуседскіх адносін з нашымі заходнімі партнёрамі: з краінамі Еўрапейскага саюза, Еўрасаюзам наогул і з іншымі геапалітычнымі «ворагамі» — ЗША і з іншымі цэнтрамі сілы, з Кітаем і гэтак далей», — сказаў Макей.

Пазней высветлілася, што гэта была агаворка. Згодна са стэнаграмай сустрэчы, размешчанай на сайце беларускага знешнепалітычнага ведамства, кіраўнік МЗС меў на ўвазе «геапалітычных гульцоў» («враги» — «игроки»).

Сапраўды, агаворка пра «ворагаў» можа даць еўрапейцам зразумець, кім насамрэч іх лічаць улады Беларусі. Аднак Макею можна параіць, як не дапускаць такіх ляпаў у будучыні. Проста вучыць беларускую мову і карыстацца дзяржаўнай мовай падчас афіцыйных візітаў і сустрэч. «Гульцоў» і «ворагаў» паблытаць значна складаней, чым «врагов» і «игроков».

## Вікторыя Азаранка

**Экс-першая ракетка свету, нягледзячы на цяжарнасць, 11 кастрычніка адкрыла першы нацыянальны дзіцячы выніковы турнір па тэнісе «Мастэрс», дырэктарам якога яна з'яўляецца.**



Па словах Вікторыі Азаранкі, новае спаборніцтва дасць магчымасць узмацніць канкурэнцыю паміж юнымі гульцамі, а таксама выявіць сярод іх лідараў.

«Правядзенне гэтага турніру — мая ідэя, якую падтрымала федэрацыя і тэнісныя цэнтры, — распавяла журналістам Вікторыя. — Паводле ўласнага досведу магу сказаць, што існуе суперніцтва паміж мясцовымі спаборніцтвамі. Я лічу, што канкурэнцыя дапаможа дзецям больш адказна ставіцца да тэнісу. Яны атрымаюць паездку не проста так, а заваююць права на яе. Думаю, няма нічога лепш у тэнісе, чым паехаць на міжнародны турнір і паказаць сябе там. Праз тэніс дзеці імкнуцца рэалізаваць свае мары. Усе яны хочуць патрапіць у сусветны тур».

Азаранка заявіла, што нацыянальны дзіцячы выніковы турнір па тэнісе стане штогадовай падзеяй. Яна ўпэўненая, што «вынікі дадуць кіраўнікам тэніснай федэрацыі і Міністэрства спорту і турызму разуменне, каму з маладых хлопцаў варта дапамагчы».

# Міхаіл Пастухоў: «Захаванне ўлады пад канстытуцыйнымі дэкарацыямі»

Сяргей ПУЛЬША

**Лукашэнка загаварыў пра новы рэферэндум. Ці сапраўды наспелі змены ў Асноўны закон краіны, і якімі яны могуць быць? Пра гэта НЧ пагутарыў з доктарам юрыдычных навук, прафесарам і былым суддзёй Канстытуцыйнага суда Міхаілам Пастуховым, які, дарэчы, прарочыў рэферэндум яшчэ ў 2014 годзе.**

## Цягнік

Безумоўна, змены ў Канстытуцыю наспелі ўжо тры гады таму, кажа юрыст. Справа ў тым, што яшчэ ў 2013 годзе Аляксандр Лукашэнка скасаваў гаспадарчыя суды, перадаўшы іх функцыі судам агульнай юрысдыкцыі. Аднак у Асноўным законе маюцца шматлікія спасылкі на Вышэйшы гаспадарчы суд і яго суддзяў. Але такой структуры ў дзяржаве ўжо не існуе. Адпаведна, трэба правесці рэферэндум, каб змяніць Канстытуцыю і прывесці яе ў адпаведнасць з рэаліямі.

Гэтае пытанне можа быць, так бы мовіць, цягніком для правядзення ў жыццё ідэі рэферэндуму. Што яшчэ можа быць вынесенае на разгляд народа?

## Вагон першы. Прэзідэнт праз парламент?

«Пасля парламенцкіх выбараў настаў час падумаць і пра сябе. Наперадзе ў нас выбары ў мясцовыя саветы, а потым толькі прэзідэнцкія 2020-га. Але Лукашэнку ўжо няёмка будзе выбірацца на шосты тэрмін па старому выбарчаму заканадаўству. Таму трэба нешта думаць, каб змяніць дэкарацыі. Магчымыя два варыянты: жорсткі, як у Азербайджане ці Туркменістане, калі проста падаўжаюць прэзідэнцкі тэрмін, ці варыянт Казахстану, калі першы прэзідэнт краіны — прэзідэнт да скону. Альбо больш гнуткі варыянт Арменіі: калі кіраўніка дзяржавы абірае парламент, а не народ», — разважае Міхаіл Пастухоў.

Можна лёгка пралічыць плюсы мяккага варыянту. Пры ім, адзначае Пастухоў, захоўваецца магчымасць для экс-кіраўніка дзяржавы пераабірацца праз парламент. Можна і прапанаваць надзейнага чалавека на вышэйшую пасаду, а самому сысці ў цень. Можна атрымаць плюсы ў народзе: улада дэмакратызуецца, становіцца больш ліберальнай. Можна атрымаць бонусы і ў Еўропе, бо прэзідэнцкія паўнамоцтвы ў гэтым выпадку будуць вонкава абмежаваныя, а паўнамоцтвы парламента крыху пашырацца. Парламент атрымае права прызначаць выбары, праводзіць рэферэндумы, зацвярджаць урад.

«Галоўнае тут — магчымасць захавання ўлады пад канстытуцыйнымі дэкарацыямі. Безумоўна, па форме кіравання Рэспубліка Беларусь стане больш дэмакратычнай — прэзідэнт не будзе на першым месцы. Але кіраўнік дзяржавы захавае сваю ўладу дэ-факта, бо аніякіх зменаў у ягоных паўнамоцтвах не адбудзецца», — адзначае Пастухоў.

Што ж тычыцца пашырэння паўнамоцтваў заканадаўчага органа, то ён і зараз, і пасля будзе філіялам Адміністрацыі прэзідэнта. Бо менавіта адтуль прыходзяць у парламент законапраекты, там дэпутаты атрымліваюць заробак. Гэта не зменіцца, а таму парламент і далей будзе кішэнны.

Калі захаваецца такі стан рэчаў, уладзе кіраўніка дзяржавы нішто не пагражае.

Але на паперы пройдуць заўважныя змены, што значна палепшыць імідж Беларусі ў цывілізаваным свеце. Як жа, мы перайшлі ад прэзідэнцкай да парламенцка-прэзідэнцкай формы кіравання! А тое, што гэтая форма насамрэч не адпавядае рэчаіснасці — ну дык гэта асаблівасці развіцця дэмакратыі ў Беларусі.



**Міхаіл Пастухоў: «Лукашэнку няёмка будзе выбірацца на шосты тэрмін па старому выбарчаму заканадаўству»**

## Вагон другі. Смяротная кара

З пазіцыі «мудрых юрыстаў», пра якіх казаў Лукашэнка, на рэферэндум можа быць вынесенае актуальнае для праваабаронцаў і Еўропы пытанне адмены смяротнага пакарання. «Гэтую пешку можна аддаць без аніякіх праблем. Галоўнае, правесці прапагандысцкую кампанію», — зазначае Пастухоў.

На гэтым можа атрымаць бонусы кіраўнік дзяржавы, які, напрыклад, адразу пасля рэферэндуму неадкладна ўвядзе мараторый на пакаранне смерцю. Гешэфт атрымаюць і дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, якія потым увогуле смяротнае пакаранне забароняць. Дэпутаты будуць сапраўднымі героямі — адмянілі смяротную кару ў апошняй краіне ў Еўропе, СНД і на постсавецкай прасторы, дзе яна яшчэ захоўвалася.



Гэта дазволіць Беларусі ўзнавіць, а можа і палепшыць свой статус у Савеце Еўропы. Краіна значна палепшыць свой імідж на Захадзе. ЕС, у выпадку адмены смяротнага пакарання, прыме Беларусь з шырокімі абдымкамі і вялікай радасцю. Гэта, на думку Пастухова, дазволіць распачаць новы гандаль за перацягванне краіны з расійскай сферы інтарэсаў у бок еўрапейскай.

## Вагон трэці. Выбары

Тэмай змен у выбарчае заканадаўства і беларускую выбарчую сістэму Захад, ужо выеў усе мазгі беларускай уладзе. Таму як падчас прэзідэнцкіх, так і падчас парламенцкіх выбараў мы ўсё больш і больш чулі пра змены: праўда, не Выбарчага кодэкса, а мадэлі выбараў увогуле. Паводле меркавання Пастухова, і — як казалі неаднаразова Мікалай Лазавік і Лідзія Ярмошына, — у краіне магчымы пераход да змешанай сістэмы выбараў. То бок, на палове акруг выбаршчыкі будуць абірацца па партыйных спісах, на другой палове — як зараз, па мажарытарных.

Галасаванне па партыйных спісах уладзе нічым не пагражае. Нарэшце рэалізуецца даўняя задума ператварыць грамадскае аб'яднанне «Белая Русь» у прапрэзідэнцкую палітычную партыю, якая будзе выйграваць выбары такім жа чынам, як зараз выйграюць іх яе кандыдаты паасобку. А апазіцыянерам давядзецца штурмаваць бар'ер у 5%, каб трапіць у парламент. А мы ведаем, што і зараз прадстаўнікам дэмакратычных партый больш за 5% галасоў на выбарах не малююць. Выключэннем сталі толькі апошнія парламенцкія выбары.

Пераход да змешанай выбарчай сістэмы — цукерка для наменклатуры і ЦВК. «Белая Русь», па прыкладзе Расіі, праз дэпутатаў дацягнецца да дзяльбы бюджэтнага пірага, чыноўніцтва атрымае свой кавалак. Пад рэформу выбарчай сістэмы Лідзія Ярмошына ў чарговы раз адкіне прапанаваныя АБСЕ заўвагі і дадаткі ў праварпрымяняльную выбарчую практыку. І ўсе хібы ў правядзенні выбараў спіша на гэтую рэформу, у чарговы раз адклаўшы прапановы міжнародных інстытутаў па дэмакратызацыі выбарчай сістэмы ў далёкую скрыню.

Чаму для гэтага патрэбныя змены ў Канстытуцыю? Таму што зараз там існуе артыкул 72 пра адкліканне дэпутата. А якое можа быць адкліканне, калі ён абраўся па партыйным спісе? Адпаведна, гэту норму трэба будзе неяк рэфармаваць альбо скасоўваць.

У гэтым выпадку Міхаіл Пастухоў не выключае і вяртання да аднапалатнага парламента, бо сённяшнія 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў — занадта малая лічба для партыйных спісаў.

## Вагон чацвёрты. Амбудсмен

Увядзенне ў Канстытуцыю нормы пра інстытут упаўнаважанага па правах чалавека — гэта яшчэ адзін «крок насустрач Еўропе» і яшчэ адна пешка, якую ёй можна аддаць без аніякіх стратаў, адзначае Пастухоў. Тым больш, што канцэпцыя ўпаўнаважанага па правах чалавека ўжо распрацаваная Рыгорам Васілевічам. Праўда, Васілевіч, распрацаваў гэтую канцэпцыю па казахскім сцэнары, калі гэтая пасада — пры прэзідэнце краіны.

Пастухоў лічыць, што мы можам пайсці і далей, аддаўшы правы прызначаць амбудсмена парламенту. Калі ўжо парламент абірае прэзідэнта, чаму ён не можа прызначыць і ўпаўнаважанага па правах чалавека? Канешне, можа. І гэтым амбудсменам будзе Васілевіч, які распрацоўваў канцэпцыю ўпаўнаважанага па правах чалавека пад сябе.

«Я кажу пра канстытуцыйныя папраўкі цягам бліжэйшага года, — прагназуе Пастухоў. — Калі гэтыя папраўкі будуць падрыхтаваныя і ўхваленыя, то рэферэндум можа быць прызначаны і раней, напрыклад, увесну 2017-га. Парламенцкія выбары прайшлі па сцэнары ўлады, стэрыльнасць парламента не моцна парушаная, два апазіцыйныя дэпутаты надвор'я не зробяць. 108 дэпутатаў абяруць любога патрэбнага кіраўніка дзяржавы».

Гэтыя змены Канстытуцыі патрабуюць даволі складанай распрацоўкі. Ці здолее ўлада ў сціслы час іх падрыхтаваць? Здолее, упэўнены Пастухоў. «Я ведаю не ўсіх, але шмат, па выразе Лукашэнкі, «мудрацоў-юрыстаў», якія могуць гэта зрабіць і за месяц. А калі вельмі спатрэбіцца, то і за тыдзень», — кажа эксперт.

## Хто падтрымае рэферэндум?

Міхаіл Пастухоў лічыць, што з такімі рэформамі рэферэндум падтрымаюць і Расія, і Захад. Расія — таму што нават з абраннем прэзідэнта парламентам усе рычагі ўлады дэ-факта застаюцца ў Лукашэнкі. Працэдурна ён будзе абірацца па-новаму, а кіраваць будзе як раней — і парламентам, і ўрадам, і ўсім астатнім.

Захад прызнае рэферэндум дэ-факта. Яму будзе адвалены вялікі кавалак саступак у выглядзе скасавання смяротнай кары і ўводзінаў у заканадаўства пазіцыі амбудсмена. Пляскаючы ў ладкі наконт гэтых пераўтварэнняў, ён заплюшчыць вочы на тое, што сутнасць улады ў Беларусі не змянілася.

Да таго ж, паводле меркавання Пастухова, становіча можа паставіцца да такіх змен Асноўнага закону і частка дэмакратычнай грамадскасці. Бо з кожнага праса будуць сцвярджаць, што гэтыя змены скіраваныя на лібералізацыю ўлады. Маўляў, «слабы» прэзідэнт, які абіраецца парламентам, адмена смяротнага пакарання, «дэмакратызацыя» выбарчага заканадаўства і іншае, — чым не лібералізацыя?

Сутнасць жа рэжыму, якая палягае ў адсутнасці палітычных, эканамічных, сацыяльных правоў і свабодаў, незалежнай судовай сістэмы і пры наяўнасці карнага апарату — застанецца ранейшай.

«Будуць распрацаваныя папраўкі ў Асноўны закон, якія зноў назавуць «новай рэдакцыяй» Канстытуцыі, выдадуць асобнымі кніжачкамі, раздадуць людзям. І гэтая кніжка будзе вельмі зваблівая для грамадскасці і для Еўропы. І за яе шмат грамадзян, якія не звыклі паглыбляцца ў сутнасць праблем, прагаласуюць», — упэўнены эксперт.

Ў Гэта я — беларускамоўны

# «Мяне ўразіла, што амбасадар Швецыі ведае беларускую мову…»

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Вядоўца, кухар і бізнесовец — прадстаўнікоў гэтых прафесій у нашай рубрыцы «Я — беларускамоўны» дагэтуль не было. Чытаючы новыя гісторыі, вы можаце чарговым разам пераканацца, што беларуская мова належыць усім нам, а не толькі вучоным філолагам альбо зацятым «бэнээфаўцам». Калі гісторыі былі ўжо гатовыя, я заўважыла цікавае супадзенне: гэтым разам усе нашы беларускамоўныя героі — мужчыны і паходзяць з Міншчыны. Таму, каб нікому не было крыўдна, абяцаем, што наступным разам гісторыі будуць ад жанчын, жыхарак цудоўных мясцін па-за межамі беларускай сталіцы.**

**Васіль Грыбоўскі, вядоўца, Міншчына:**

— Я нарадзіўся ў вёсцы і наведваў беларускамоўную школу, таму з мовай жыў з дзяцінства. Зразумела, гэта была не літаратурная мова, а збольшага трасянка. Я не задаваўся нават у той момант пытаннем, якую мову выкарыстоўваю ў паўсядзённым жыцці, я проста на ёй размаўляў. Былі розныя моманты ў школьным жыцці. Напрыклад, прадстаўляючы сваю школу на раённых алімпіядах, я заўсёды ездзіў выпрабоўвацца менавіта ў беларускай мове і літаратуры. У той жа час успамінаецца прыкры выпадак з падручнікам па фізіцы для 10-га класа — у мяне адзінага ён быў на рускай мове, чым, памятаю, я быў усцешаны…

Беларуская мова ўвайшла ў маё жыццё найперш праз бабулю і гісторыю. Калі я быў ужо студэнтам, задаў пытанне маёй бабулі: хто ёсць нашы продкі? І даведаўся ад яе пра шляхту, пра звычаі нашага народа. Пасля гэтага я прагна стаў вывучаць гісторыю Беларусі. Калі я скончыў універсітэт, я меў ужо зусім іншыя погляды на мову, гісторыю. Яшчэ больш мяне падахвоціла на выкарыстанне мовы ў паўсядзённым жыцці наведванне ПЭН-цэнтра і рэдакцыі газеты «Наша Ніва» — я аказваў ім паслугі ў абслугоўванні сігналізацыі.

**Я стараюся з дзецьмі гаварыць па-беларуску. Яны ведаюць, што гэта наша мова, разумеюць яе, але пакуль не маюць магчымасці яе вывучаць**

Цяпер я — індывідуальны прадпрымальнік, аказваю забаўляльныя паслугі. Працую вядоўцам-маршалкам, аніматарам на розных урачыстасцях, супрацоўнічаю з турыстычнымі фірмамі. Дзесяці на 90 працэнтаў аказваю паслугі па-беларуску. Выключэннем бываюць моманты, калі на мерапрыемствах прысутнічаюць госці з-за мяжы, звычайна гэта прадстаўнікі краін Балтыі, Расіі і людзі, якія беларускую мову не ведаюць. Калі працуеш для ўкраінцаў, пытанне мовы не ўзнікае. Радзіна, сваякі, сябры — усе ведаюць мяне як беларускамоўнага. Не хаваю, што па-за сваёй дзейнасцю, бывае, пераходжу на рускую мову — напрыклад, у пытаннях вядзення будоўлі. З кожным разам намагаюся змяншаць выкарыстанне рускай мовы, часам атрымліваецца, часам — не.

Згадваюцца два цікавыя выпадкі. Я быў неяк вядоўцам на мерапрыемстве расійскай кампаніі, якая вырашыла адзначыць гадавіну свайго заснавання ў Беларусі. Было гэта ў Сілічах. Мой непасрэдны замоўца папрасіў праводзіць мерапрыемства па-беларуску, хоць я яго папярэджваў пра наступствы.




І вось падчас размовы да мяне звяртаецца адзін з удзельнікаў і кажа: «А можна па-руску, мы вашу ўкраінскую не разумеем». Я растлумачыў яму, што Сілічы — гэта беларускі гарналыжны курорт, які знаходзіцца каля Мінска, беларускай сталіцы, а Украіна за 350 кіламетраў ад вашага стала. Што цікава, прэзідыум і астатнія госці ўспрымалі мову нармальна, і толькі да яго, каб выдзеліць яго з агульнай грамады, я звяртаўся па-руску.

Другі выпадак быў у майго суседа — адзначалі яго дзень нараджэння. Мой сусед і яго сябрына з радзінай з Драгічынскага раёна адзін з адным зносяцца з сакавітай паляшуцкай гаворкай, а песні якія спяваюць пад баян! Мілая справа. І вось калі трэба было наліваць, я крыху маршаліў, бацька суседа заўсёды казаў: «Налівай, беларус!»

**Ігар Гайдук, кухар, Мінск:**

— Некалькі гадоў таму я перадолеў сябе і пайшоў на першыя моўныя курсы. Тады, я памятаю, было каля 500 чалавек, мы знаёміліся са Стэфанам Эрыксанам — праз скайп, тады яго ўжо адклікалі з Беларусі. Тое, што амбасадар Швецыі на такім высокім узроўні ведае беларускую мову, мяне вельмі ўразіла. Так паступова я і прывязаўся да беларускасці.

На сённяшні момант размаўляю на беларускай мове дома і ва ўніверсітэце. Курсавая таксама будзе на беларускай мове — гэта ведаю дакладна, хоць тэму пакуль не абраў. Служба «115» — адзіная дыспетчарская служба ЖКГ — цяпер гаворыць са мною таксама на беларускай мове (не ўсе супрацоўнікі, але гэта мы выправім). Скажу каротка — мова паляпшае жыццё!

**Аляксей Каралёў, бізнесовец, Мінск:**

— Першае знаёмства з роднай мовай адбылося, як амаль ва ўсіх, у школе на ўроках беларускай мовы і літаратуры. Я добра ёю валодаў, але на практыцы не карыстаўся. Дзесяці гадоў сем таму ў мяне з'явіліся першыя знаёмыя, якія размаўлялі па-беларуску. Добры прыклад мне падалі. Пагледзеў я на іх і падумаў: а чаго я не магу так? Пакрысе пачаў размаўляць, а калі гэта ўся беларусізацыя стала набыла папулярнасць, яшчэ актыўней пачаў ужываць родную мову.

У сям'і я стараюся з дзецьмі (дзяўчаты-дашкольніцы) гаварыць па-беларуску. Яны ведаюць, што гэта наша мова, разумеюць яе, але пакуль не маюць магчымасці яе вывучаць, таму першыя веды павінны мы — бацькі — ім даць. Беларуская мова для іх яшчэ не асноўная, але мой абавязак — выгадаваць іх беларусамі і навучыць ставіцца да мовы гэтак жа, як я сам.

Актыўна выкарыстоўваю беларускую мову і ў бізнесе. Наш карпаратыўны сайт зроблены на дзвюх мовах, але асноўнай з'яўляецца беларуская — гэтая версія адкрываецца па змоўчанні. Сайты нашых асобных брэндаў таксама афармленыя па-беларуску, і беларускія версіі — асноўныя. Лічу, што гэта правільна, бо мы — беларусы, і найперш павінны дбаць пра родную мову. У той жа час мы клапоцімся пра кліентаў, і той, каму раптам цяжка зразумець беларускую мову, можа пераключыцца на іншую — рускую ці англійскую. У сацыяльных сетках таксама вядзем працу па-беларуску.

Ёсць у нас і выключна беларускамоўныя кліенты, з якім мы арганізоўваем працу і праводзім перамовы па-беларуску — для іх важна, калі з імі могуць якасна размаўляць на нашай мове. Але пакуль усё ж большая частка кліентаў — гэта рускамоўныя людзі, таму з імі даводзіцца размаўляць па-руску.

Прыгадваецца, як гадоў 10 таму мы падарожнічалі па Еўропе і амаль напрыканцы, ужо калі мы ехалі дадому па тэрыторыі Польшчы, у нашым аўто спусціла кола. Мы спыніліся амаль адразу — на першай жа запраўцы, і я пайшоў спрабаваць знайсці насос, каб падкачаць кола. Тады я яшчэ зусім слаба ведаў польскую мову і паспрабаваў у супрацоўніка станцыі запытаць на англійскай і рускай мовах, але ён мяне не разумеў. Тады я падумаў, ці не спытаць па-беларуску — згадаўся, што нашы мовы вельмі падобныя. І здарыўся цуд — пан адразу зразумеў мяне. Дастаў са свайго аўто насос, і я змог напампаваць кола. Так беларуская мова дапамагла нам бясклапотна вярнуцца дахаты!






# Рэферэндум–2004: Гэта не наш дзень!

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Хтосьці чакаў гэтага з жахам, іншыя — з пэўным задавальненнем. 7 верасня 2004 года Аляксандр Лукашэнка звярнуўся да краіны з паведамленнем, што падпісаў указ аб правядзенні 17 кастрычніка агульнарэспубліканскага рэферэндуму па чарговых зменах у Канстытуцыю. Кіраўнік дзяржавы прапанаваў выкрасліць з Асноўнага закона абмежаванне пра тое, што адна асоба можа быць прэзідэнтам не больш двух тэрмінаў.**

Пытанне рэферэндуму было пастаўлена так: «Ці дазваляеце вы першаму прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку ўдзельнічаць у якасці кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь у выбарах прэзідэнта і ці прымаеце частку першую артыкула 81 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у наступнай рэдакцыі: «Прэзідэнт абіраецца на пяць гадоў непасрэдна народам Рэспублікі Беларусь на аснове ўсеагульнага, свабоднага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні?»».

Гэты крок афіцыйнага беларускага лідара быў чаканы. Наўрад ці можна было сумнявацца, улічваючы прагу Аляксандра Лукашэнкі да ўлады, што ён добраахвотна сыдзе з пасады. Пачынаючы з 2003 года незалежныя эксперты і юрысты, у прыватнасці, былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў, зрабілі дакладны прагноз наконт таго, што прэзідэнт будзе ініцыяваць рэферэндум, датычны трэцяга тэрміну. Сам Лукашэнка ў шматлікіх інтэрв'ю, у тым ліку і на знакамітай прэс-канферэнцыі 20 ліпеня 2004 года, не выключаў магчымасці быць прэзідэнтам у трэці раз. У жніўні 2004 года падчас візіту кіраўніка дзяржавы на сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў «Кастрычнік-Гродна» па беларускім дзяржаўным тэлебачанні быў прадэманстраваны сюжэт, у якім адна з мясцовых жыхарак прасіла яго застацца на сваёй пасадзе найдалей. Вядомы апазіцыйны дзеяч Павел Севярынец лічыў, што Аляксандр Лукашэнка абвесціць пра рэферэндум у дзень свайго пяцідзесяцігоддзя, 30 жніўня.




### Ці выпадковасць?

Аднак час звароту аказаўся крыху іншым і быў падабраны вельмі ўдала. Як вядома, 1 верасня 2004 года адбылася тэрарыстычная трагедыя ў Беслане. Таму ўвага самой Расіі, ад якой у асноўным і залежала прызнанне вынікаў рэферэндуму, і сусветнай супольнасці была прыкаваная да не вядомага дагэтуль невялічкага гарадка ў Паўночнай Асеціі. На магчымую сувязь Беслана і ініцыятывы Аляксандра Лукашэнкі з рэферэндумам упершыню ўказаў (яшчэ да звароту Лукашэнкі) дэпутат Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Парфяновіч.

Нездарма ў звароце, які трансляваўся на вялікім экране сталічнай Кастрычніцкай плошчы, куды спецыяльна звезлі вялікую колькасць студэнтаў, пэўнае месца адводзілася тэрарызму. Аляксандр Лукашэнка, які нават не падазраваў аб будучых падзеях у мінскім метро ў красавіку 2011-га, упэўнена казаў, што «Господь хранит нас — за эти десять лет ни один белорус не стал жертвой террористического акта». Аднак Бог не паслухаў кіраўніка дзяржавы.

У цэлым зварот быў вытрыманы ў характэрным для Аляксандра Лукашэнкі папулісцкім стылі з налётам сапраўднага містыцызму, калі прэзідэнт параўнаў Беларусь са светлым і крыштальным сасудам, які ён нясе ў сваіх руках. Спіч суправаджаўся традыцыйнымі мантрычнымі заклінаннямі пра павышэнне сярэдняга заробку, пенсій і стыпендый, аб вырашэнні жыллёвага пытання. Эпітэты накшталт таго, што «страна твердо встала на путь созидания, поступательного развития» і г.д. сведчылі, што кіраўніком дзяржавы канчаткова авалодаў сіндром звышдзяржаўнага мыслення без адэкватнага ўспрымання сітуацыі.

У звароце кіраўнік дзяржавы таксама заявіў, што абапіраецца непасрэдна на думку народа і пазбягае ўсялякіх схем і камбінацый. Мелася на ўвазе тая акалічнасць, якую прыгадвалі эксперты і юрысты: Лукашэнка мог, напрыклад, прапанаваць пытанне аб працягу сваіх паўнамоцтваў шляхам зацвярджэння асобнага нарматыўнага прававога акта без зменаў у Канстытуцыю альбо нешта іншае.

### Пытанне ў пытанні

Праблемы ўзніклі з пытаннем, якое было вынесена на ўсенароднае галасаванне. Па-першае, незалежныя эксперты і юрысты даказвалі, што яно было непасрэдным парушэннем часткі трэцяй артыкула 112 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Паводле закона, на рэферэндум не маглі выносіцца пытанні, звязаныя з абраннем і вызваленнем ад пасады прэзідэнта. Улады, каб абвясціць рэферэндум, павінны былі ў першую чаргу ліквідаваць гэты нонсэнс. Да гэтага, напрыклад, заклікаў былы старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання Мечыслаў Грыб. Прэзідэнцкія паплечнікі, у тым ліку і Мікалай Лазавік, лічылі, што аніякіх парушэнняў няма, бо паняцці «абранне» і «тэрмін» — розныя рэчы. Праўда, у 2003 годзе Мікалай Лазавік заявіў, што лепшым выйсцем з сітуацыі было б рашэнне Канстытуцыйнага суда. Хаця тут сакратар Цэнтрвыбаркаму яўна хітраваў, бо старшыня Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілевіч таксама заявіў, што юрыдычных перашкодаў для правядзення рэферэндуму не існуе.




**Паплечнік улады на мітынгу на Кастрычніцкай плошчы г. Мінска, 23 кастрычніка 2004 года.** Фота belarustoday.info

Аднак для Лукашэнкі, які ніколі не хацеў здавацца слабым, нават такая фармальнасць была абсалютна не магчымай. Дата рэферэндуму была прызначана, нягледзячы на відавочную юрыдычную калізію.

Па-другое, адно пытанне ўтрымлівала, па сутнасці, два, якія супярэчылі адно аднаму. Улады, каб пазбегнуць крытычных заўваг, маглі вынесці на плебісцыт другую частку, якая была сфармулявана карэктна. Але прапісаны ў Канстытуцыі прэзідэнцкі палітычны рэжым у моцнай ступені вызначаўся асобаю самога Аляксандра Лукашэнкі і быў цалкам завязаны на ім. І гэта галоўная прычына таго, што асабістае прозвішча прэзідэнта з'явілася ў выбарчым бюлетэні.

Да таго ж, у пытанні Аляксандр Лукашэнка падаваўся як першы прэзідэнт. Сама першая частка пытання з яе фармулёўкай павінна была настроіць выбаршчыкаў на такі лад, пры якім альтэрнатывы Лукашэнку папросту няма.

## Лікі дэмакратыі

Такім чынам, на падрыхтоўку і правядзенне рэферэндуму было адведзена крыху больш за месяц — рэкордна кароткі тэрмін для адпаведнай палітычнай кампаніі. Аднак з боку Лукашэнкі быў свой разлік: большы тэрмін пацягнуў бы за сабой абавязковыя дыскусіі ў СМІ, рэакцыю насельніцтва. У любым выпадку, расцягванне тэрміну для плебісцыту азначала б палітызацыю грамадства, што не ўваходзіла ў планы кіраўніка дзяржавы. Цікава, што не спраўдзіліся словы Мікалая Лазавіка — у ліпені 2003 года ён казаў, што правесці рэферэндум за месяц немагчыма.

На апрацоўку грамадскай думкі была кінутая ўся добра адладжаная прапагандысцкая машына. Праз пару дзён пасля з'яўлення ўказу па тэлебачанні пачалі трансляваца ролікі з відавочнымі заклікамі галасаваць у падтрымку пытання (у выглядзе выбарчага бюлетэню з пазнакай на тым месцы, дзе павінна было стаяць «так»). Адпаведную палітыку ў падтрымку рэферэндуму праводзілі іншыя дзяржаўныя СМІ — радыё і прэса.

Рэсурсы праціўнікаў рэферэндуму — недзяржаўныя газеты і інтэрнэт — былі значна абмежаваныя. Заява Партыі БНФ ад 10 верасня 2004 года з патрабаваннем даць роўныя магчымасці абмяркоўваць рэферэндум у СМІ засталася без увагі.

Праўда, напярэдадні рэферэндуму ўлады вырашылі прадэманстраваць плюралізм, пусціўшы на канале АНТ 11 кастрычніка ток-шоу «Выбар» на тэму рэферэндуму з вядучым Ягорам Хрусталёвым. У токшоу прынялі ўдзел як высокапастаўленыя асобы (Лідзія Ярмошына, Рыгор Васілевіч), так і незалежныя палітыкі і эксперты (Віталь Малашка, Валерый Карбалевіч). Пры гэтым галоўны суддзя і кіраўнік ЦВК падтрымалі ініцыятыву рэферэндуму і рабілі такія заявы, якія былі несумяшчальныя з іх пасадамі.

Упершыню на дзяржаўным тэлебачанні грамадзяне пачулі альтэрнатыўную думку аб небяспецы такога плебісцыту. Праўда, зробленая ў запісе і кароткая па часе перадача не магла пераважыць інфармацыйныя захады дзяржавы. Ды і самі ўлады, пусціўшы перадачу ў эфір, падкінулі праціўнікам рэферэндуму горкую пілюлю: арганізаванае падчас ток-шоу тэлефоннае галасаванне «за» і «супраць» рэферэндуму паказала рапт нечаканую перамогу першых: 72 і 28% адпаведна. Гэта можна лічыць своеасаблівым кодам закручвання грамадскай думкі на патрэбны вынік.

13 кастрычніка ў Палацы спорту ўлады арганізавалі вялікі гала-канцэрт «За Беларусь!» (16 кастрычніка ён быў паказаны на АНТ), які павінен быў пашырыць кола прыхільнікаў рэферэндуму. Вядомыя беларускія спевакі і музыканты (Кірыл Слука, Анатоль Ярмоленка і іншыя) катэгарычна адмаўлялі палітычную падаплёку свайго ўдзелу ў мерапрыемстве.



Шэф КДБ Леанід Ерын з удзельнікамі мітынгу 18 кастрычніка 2004 года. Фота belarustoday.info




Удзельнікі мітынгу супраць трэцяга прэзідэнцкага тэрміну Аляксандра Лукашэнкі. Фота belarustoday.info

І ўсё ж галоўным ньюсмейкерам і рухавіком рэферэндуму быў сам Аляксандр Лукашэнка, які правеў кампанію даволі энергічна. Ён наведаў рэгіёны, шэраг стратэгічных прадпрыемстваў («Камунарка», «Гарызонт») і нават пабываў на фінале конкурсу «Міс Беларусь» 24 верасня. Галоўны месідж правадыра да насельніцтва заключаўся ў тым, што для Лукашэнкі галоўнае — не пасада, а бяспека і дабрабыт людзей. На «Гарызонце» прэзідэнт запэўніваў прысутных, што «не держится за кресло посиневшими пальцами».

Своеасаблівай квінтэсенцыяй публічных сустрэчаў кіраўніка дзяржавы падчас рэферэндуму стала лекцыя, прачытаная ім 23 верасня 2004 года ў Брэсцкім дзяржаўным тэхнічным універсітэце пад назвай «Крепкие регионы — сильная Беларусь». Перад студэнцкай аўдыторыяй Лукашэнка літаральна прадстаў у поўным узбраенні, дэманструючы такія ўласныя якасці і дасягненні, як добрая адукацыя (афіцыйны беларускі лідар тады заявіў, што скончыў тры ВНУ, але на прэзідэнцкім сайце пазначаны толькі дзве атрыманыя ім вышэйшыя адукацыі. — аўт.) і добрае здароўе («перед вами стоит человек, который ни разу не лежал в больнице»). Лукашэнка заклікаў студэнтаў падтрымаць яго на рэферэндуме і маляваў перад імі апакаліптычныя сцэнары краху краіны ў выніку свайго пройгрышу.

Падчас лекцыі Лукашэнка зноў прадэманстраваў сваю адданасць прынцыпу «добры цар — дрэнныя слугі». Калі адзін студэнт пажаліўся, што ў яго бацькі — рэзчыка па дрэве і аднаго са стваральнікаў рэзідэнцыі Дзеда Мароза — маленькая зарплата, прэзідэнт паабяцаў разабрацца. Сапраўднае абурэнне кіраўніка дзяржавы выклікала заява аднаго са студэнтаў пра тое, што ім — удзельнікам будаўнічага атрада, які працаваў на тэрыторыі Беларусі, — заплацілі не тую суму, якая была прапісана афіцыйна. Раз'юшаны прэзідэнт даў даручэнне знайсці і пакараць вінаватых, «поснимать с них головы».

## Плюс рэпрэсіі

Канешне, улада не спадзявалася толькі на прапаганду і агітацыю, а абапіралася на моцны сілавы апарат. Ціск на актывістаў, прыпыненне выхаду некаторых незалежных выданняў, арышты і штрафы — усё гэта суправаджала надыходзячы рэферэндум. Ужо 7 верасня 2004 года, праз некалькі хвілін пасля заканчэння звароту Лукашэнкі, праваахоўныя органы затрымалі тых, хто публічна асудзіў зварот. Сярод іх быў вядомы малады палітык Зміцер Дашкевіч.

Пад раздачу іншы раз патраплялі і «свае». 20 верасня працы пазбавілася намеснік галоўнага рэдактара шклоўскай раённай газеты «Ударны фронт» Ніна Буйніцкая. Прычынай звальнення стала публікацыя ліста аднаго з чытачоў у рубрыцы «Рэферэндум — правільнае рашэнне» (ужо сама фармулёўка рубрыкі была парушэннем выбарчага заканадаўства, бо фактычна зводзілася да агітацыі). У лісце аўтар горача хваліў ідэю рэферэндуму, а да ліста прыкладаўся верш, у якім выказвалася падтрымка кіраўніку дзяржавы. Пасля выхаду газеты аказалася, што надрукаваны твор — «акраверш». Яго першыя літары склалі асобны сказ, сэнс якога зводзіўся да датычнасці прэзідэнта да знікнення палітычных апанентаў.

У руках улады быў яшчэ адзін моцны козыр — датэрміновае галасаванне, якое павінна было адбыцца на працягу чатырох — 12, 13, 14 і 15 кастрычніка — дзён. Выкарыстоўваючы адміністратыўны рэсурс, улада прымушала людзей ісці на датэрміновае галасаванне. У гэтай сітуацыі, бадай, самымі безабароннымі апынуліся іншагароднія студэнты, якіх па розных матывах маглі пазбавіць права пражывання ў інтэрнаце.

## Прадказальны вынік

Афіцыйныя вынікі рэферэндуму былі паспяховымі для кіраўніка дзяржавы. Унесена ў спісы для галасавання было 6 986 163 грамадзянаў, у рэферэндуме ўзялі ўдзел 6 307 395, то бок 90,28%. Лукашэнку падтрымалі 79,42%. Супраць выказаліся ўсяго 691 917 грамадзянаў. Пры гэтым у датэрміновым галасаванні ўзялі ўдзел 13,72% выбарцаў.

Улада не хавала публічнага задавальнення гэтымі вынікамі. Лідзія Ярмошына назвала перамогу прэзідэнта «элегантнай». Сам Лукашэнка прызнаў, што лічбы галасавання сталі для яго «ошеломляющими».



Збіты 18 кастрычніка 2004 г. Анатоль Лябедзька. Фота gazeta.grodno.by

Вынікі рэферэндуму былі абумоўлены супадзеннем рознага роду фактараў. Канешне, дапамаглі забяспечыць патрэбныя вынікі асабістыя памкненні Лукашэнкі. Больш таго, рэпрэсіўны апарат узмацніўся пасля рэферэндуму, калі былі затрыманы дзясяткі грамадзянаў, што выказалі пратэст. Дэманстрацыйнаму збіццю падвергліся лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька (разам з ім — аператары НТВ і REN-TV) і вядомы расійскі журналіст Павел Шарамет.

Дарэчы, на прыкладзе Паўла Шарамета можна меркаваць пра сапраўднае стаўленне ўладаў да палітычных апанентаў. Збітага 18 кастрычніка Паўла Шарамета даставілі ў 4-ю клінічную бальніцу Мінска. Беларускае дзяржаўнае тэлебачанне прысвяціла гэтаму спецыяльны сюжэт, у якім дырэктар установы з гонарам заявіў, што журналісту аказана ўся неабходная дапамога. Аднак 19 кастрычніка Паўлу Шарамету паведамілі, што яго тэрмінова выпісваюць. Адміністрацыя бальніцы матывавала гэта тым, што паводле дагавора паміж Расіяй і Беларуссю дактары адной краіны могуць аказваць грамадзянам іншай краіны толькі экстраную дапамогу.

У 2010 годзе амаль такая ж сітуацыя здарыцца з кандыдатам у прэзідэнты Уладзімірам Някляевым.

Улада аператыўна расправіляся і са сваімі прадстаўнікамі, якія, на яе погляд, далі слабіну і не праявілі адпаведнай лаяльнасці. У гэтым сэнсе вельмі паказальная гісторыя з кіраўніком КДБ Леанідам Ерыным. Увечары 18 кастрычніка 2004 года генерал нечакана выйшаў да ўдзельнікаў стыхійнага мітынгу ля сценаў КДБ, дзе зрабіў некалькі заяваў, у тым ліку і адносна арыштаванага Міхаіла Марыніча. Потым Ерын сустрэўся з Паўлам Севярынцам і ў асабістай размове ва ўласным кабінеце, па словах лідара незарэгістраванага «Маладога Фронту», сказаў, што тайна зніклых палітыкаў Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі, а таксама бізнесмена Анатоля Красоўскага і тэлеаператара Дзмітрыя Завадскага рана ці позна стане вядомай.

Рэакцыя Лукашэнкі была маланкавай. Ужо 20 кастрычніка Ерын быў адпраўлены ў бестэрміновы адпачынак, а 18 лістапада — у адстаўку.

Прадказальнай аказалася і рэакцыя міжнароднага супольніцтва. Калі ЗША і Еўрапейскі саюз асудзілі рэферэндум, то Расія прызнала яго, зацвердзіўшы адпаведную заяву большасцю галасоў Дзярждумы.

## Абралі невядома што

Улічваючы вялікую ролю ў рэферэндуме прапаганды і спецслужбаў, не варта скідваць з рахункаў і іншыя абставіны. І галоўная з іх заключаецца ў тым, што частка насельніцтва свядома прагаласавала «за». Рэжым быў на піку магутнасці, у тым ліку па прычыне адноснай ўстойлівай эканамічнай сітуацыі. Гэтая частка насельніцтва не ўсведамляла, а, мабыць, і не хацела ўсведамляць, што беларуская сацыяльная мадэль, пабудаваная на танных расійскіх рэсурсах, не мае нават сярэднетэрміновай перспектывы. Паступіўшыся грамадзянскімі правамі, тыя выбаршчыкі спадзяваліся на ўстойлівыя сацыяльныя гарантыі з боку дзяржавы.

Па-рознаму можна ацэньваць матывы тых, хто галасаваў «за», аднак відавочна атрымалася атамізацыя большасці сучаснага беларускага грамадства, няздольнасць не толькі аб'яднацца вакол нацыянальнай ідэі, але зрабіць мінімальныя грамадзянскія ўчынкі, выказаць свой пункт погляду. Усе гэта дапамагло ўладзе атрымаць чарговую перамогу ў выглядзе рэферэндуму 17 кастрычніка 2004 года.

14 кастрычніка 2016 | № 39 (504) Новы час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ: Колькі каштуе выхад з ЕС?

На днях урад Вялікабрытаніі абвясціў дату пачатку працэсу выхаду са складу Еўрасаюза, які запатрабавалі брытанскія выбаршчыкі на рэферэндуме ў чэрвені 2016 года. Аднак канкрэтныя дэталі пакуль не вядомыя і могуць набыць самыя незвычайную афарбоўку. Напрыклад, 7 кастрычніка французскі прэзідэнт патрабаваў ад Лондану заплаціць за выхад. Сваю прапанову ён аргументаваў тым, што ў свой час Маргарэт Тэтчар пагадзілася на сяброўства Брытаніі ў некаторых праграмах ЕС выключна пры ўмове, што краіна атрымае вялікія фінансавыя прэферэнцыі. Франсуа Аланд адзначыў: «Цяпер Аб'яднанае Каралеўства хоча пакінуць Еўрасаюз, і нічога пры гэтым не заплаціць. Гэта нонсэнс». Каментуючы Аланда, эксперты пішуць, што ў Брусэлі, падаецца, узнікла ідэя на прыкладзе Вялікабрытаніі даць урок усім, хто таксама думае пра выхад з ЕС. Не выключана, што пункт пра выплаты за намер выйсці з ЕС з'явіцца ў будучых статутных дакументах Еўрапейскага саюза.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Забарона абортаў: спроба нумар два

Аказваецца, у польскім кансерватыўным урадзе не пакінулі ідэю праштурхнуць закон пра татальную забарону абортаў у краіне. Як вядома, першая спроба прасунуць законапраект правалілася пасля таго, як па краіне пракацілася моцная хваля пратэстаў. У выніку Сейм вырашыў перагаласаваць папярэдняе рашэнне. Аднак ужо на наступны дзень Крысціна Паўловіч, дэпутат і палымяны аматар крыміналізацыі абортаў, паведаміла пра наяўнасць у кансерватараў «плану Б». Размова ідзе пра новы законапраект, аўтары якога, на першы погляд, не забараняюць аборты, аднак жорстка абмяжоўваюць кола тых, хто можа звярнуцца па гэтую паслугу ў медычныя ўстановы. Для гэтага будзе створаны інстытут спецыяльных камісій. Новы законапраект будзе прадстаўлены як ініцыятыва блізкай да Касцёла грамадскай арганізацыі. Гэта павялічвае шанцы на тое, што рэакцыя грамадства на закон будзе больш пазітыўнай. Дарэчы, першая спроба забараніць аборты вельмі моцна ўдарыла па рэйтынгах урадавай партыі. Упершыню за доўгі час большасць палякаў гатовыя зараз галасаваць за партыі ліберальнай апазіцыі.

**Паводле польскай прэсы**

### РАСІЯ. Антыпуцінцы ствараюць баявую партыю

Па палітычных салонах Масквы ходзяць плёткі, што Вячаслаў Мальцаў, былы «нумар два» ў выбарчым спісе антыпуцінскай партыі ПАРНАС, стварае партыю новага, баявога кшталту. Дакладныя контуры праекту Мальцава пакуль не зразумелыя. Аднак вядома, што яго асноўная задача — вывесці людзей на вуліцы ў лістападзе 2017 года і зрынуць рэжым Пуціна. На цяперашнім этапе, быццам, ідзе фармаванне нейкіх камітэтаў супраціву, якія пазней, па словах блізкіх да Мальцава асобаў, плануецца аб'яднаць у адзіную структуру. Тое, што на такія архірэвалюцыйныя планы скрозь пальцы глядзяць шматлікія спецслужбы Расіі, ускосна пацвярджае версію, што Мальцаў працуе на Крэмль. Тым больш, што менавіта яго асоба абумовіла электаральную катастрофу лібералаў на верасеньскіх выбарах у Думу (яны набралі смешныя 0,7 працэнта). Напярэдадні выбараў Мальцаў прывёў у партыю шмат неанацыстаў, што падарвала давер да лібералаў. Новы праект Мальцава таксама азначае, што яго, хутчэй за ўсё, выганяць з шэрагаў ПАРНАС. Праўда, ці зможа рэабілітавацца партыя Кас'янава пасля Мальцава — пытанне пакуль адкрытае. Нездарма лідары ПАРНАС прызналіся, што вядуць перамовы з партыяй «Яблоко» наконт аб'яднання дзвюх партый на адной пляцоўцы. У цяперашняй сітуацыі такой платформай, відавочна, можа быць выключна партыя Яўлінскага.

**Паводле расійскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Блогераў прымусяць рэгістравацца як СМІ

У Казахстане ідзе абмеркаванне праекта Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты па пытаннях інфармацыі і камунікацый». Яго галоўная фішка — перагляд паняцця «інтэрнэт-рэсурс» у дачыненні да блогераў. Асноўная ідэя ў тым, што кожны казахскі блогер будзе павінен зарэгістравацца ў адпаведным дэпартаменце. Праўда, самі чыноўнікі абяцаюць, што рэгістрацыя будзе абсалютна добраахвотнай і, больш за тое, адчыніць перад блогерамі нейкія фантастычныя магчымасці, сутнасць якіх таксама, праўда, невядомая. Яшчэ больш незразумелая сутнасць паправак у кантэксце наяўнасці старога закону, паводле якога ўсе інтэрнэт-рэсурсы ў Казахстане і без цяперашніх паправак заканадаўча прыроўненыя да СМІ. У тым ліку гэта тычыцца форумаў і блогаў. Такім чынам, усе, хто пакідае паведамленні ў сеціве, аўтаматычна становіцца журналістамі. Праўда, ёсць у новым праекце і нейкі пазітыў: у канцэпцыі прапануецца заканадаўча ўрэгуляваць магчымасць размяшчэння аўтарам выбачэння за свой матэрыял у дасудовым парадку.

**Паводле казахскай прэсы**

# Бітва за Будапешт

*Алег НОВІКАЎ*

**Ці могуць наступствы рэферэндуму ў Венгрыі стаць пачаткам агоніі аўтарытарнага рэжыму Віктара Орбана?**



Усім вядома, што палітыкі — вялікія адмыслоўцы ў тым, каб знаходзіць «стрэлачнікаў», адказных за любыя правалы. Таму няма падстаў асабліва здзіўляцца словам венгерскіх чыноўнікаў, якія сярод вінаватых у непажаданых для сябе выніках рэферэндуму 2 кастрычніка назвалі ў тым ліку туман. Нагадаем, што на рэферэндуме венграм трэба было адказаць, ці гатовыя яны перадаць ЕС права вызначаць квоты мігрантаў для краіны. Загадно прапанавалася выказацца непасрэдна наконт праекту рассялення ў Венгрыі 1294 мігрантаў з італьянскіх і грэчаскіх цэнтраў для ўтрымання ўцекачоў.

У прынцыпе, з улікам гучнай антыімігранцкай прапагандысцкай кампаніі, якая вядзецца афіцыйным Будапештам, ніякай вялікай інтрыгі рэферэндум не меў. Лепшая ілюстрацыя — канчатковыя вынікі, агучаныя ЦВК: 98,7 працэнта тых, хто прагаласаваў, падтрымалі прапанову ўраду не пускаць мігрантаў.

Аднак тут, на думку некаторых, у справу ўмяшалася прыродны стыхія ў выглядзе таго самага туману. Туман, які накрыў краіну 2 кастрычніка, быццам бы выклікаў у венграў вялікае нежаданне выходзіць з дому, каб пайсці на выбарчыя ўчасткі. У выніку яўка на плебісцыце склала трошкі больш за 43 працэнты. Адпаведна, рэферэндум давялося прызнаць несапраўдным.

Нечаканая развязка гісторыі з плебісцытам стала сапраўдным сюрпрызам для прагрэсіўнай еўрапейскай грамадскасці, якая даўно ў шоку ад курсу ўраду Віктара Орбана. Недарма чэшскі літаратар Мілан Кундэра ў свой час увогуле заявіў, што Венгрыя перастала быць еўрапейскай краінай. Такую ацэнку Венгрыя заслужыла за тое, што ў краіне рэгулярна абмяжоўваюцца правы журналістаў, штучна маргіналізуецца апазіцыя і г.д. Напэўна, прыступы эйфарыі назіраліся і ў Брусэлі, дзе небеспадстаўна баяліся, што венгерскі плебісцыт стане пралогам падобных рэферэндумаў у іншых краінах. Прынамсі, такога кшталту прапановы гучалі ў Аўстрыі і на ўзроўні адміністрацый шэрагу італьянскіх рэгіёнаў.

Канфуз Орбана разглядаецца як правал спробы стварэння восі Будапешт — Варшава, вакол якой маглі гуртавацца ўсе незадаволеныя ідэямі шчыльнай інтэграцыі краін ЕС. Пазітыўны вынік венгерскага рэферэндуму стварыў бы прававы прэцэдэнт, як бы даючы права нацыянальным урадам праз рэферэндумы не выконваць распараджэнні Брусэля.

Не дзіўна, што навіны з Венгрыі адразу выклікалі надзеі на хуткія перамены ў краіне. Надзеі падмацоўвалі дадзенымі апошніх сацыялагічных апытанняў. Паводле іх, для 67 працэнтаў венграў слова «Fidesz» (назва партыі Орбана) і такая з'ява, як «карупцыя» — сінанімічныя паняцці. У папрок Орбану венгерскі абывацель таксама ставіць тое, што на арганізацыю плебісцыту пайшла немалая сума з бюджэту.

Адным словам, сацыялістам — вядучай апазіцыйнай партыі — раптам пачалі прарочыць перамогу на выбарах 2018-га. Шмат хто ў гэтай сувязі цытуе былога прэм'ер-міністра Венгрыі Ферэнца Дзюрчаня, які заявіў, што пакуль кіруючай партыі на плебісцыце дае дэмакратычным апазіцыйным сілам Венгрыі нагоду, каб аб'ядналіся.

Аднак, па ходзе аналізу сітуацыі, энтузіястаў наконт хуткага фіналу эры Орбана становіцца значна менш. Больш таго, некаторыя нават асцярожна пішуць, што Орбан, магчыма, яшчэ не самы жудасны варыянт на фоне таго, што пагражае краіне пасля рэферэндуму.

**Урад Венгрыі рыхтуе закон, які дазволіць украінскім гастарбайтэрам уладкавацца ў Венгрыі. Сутнасць праекту ў тым, каб штучна запоўніць венгерскую квоту на імігрантаў, якую навязвае Брусэль**

Пачаць можна з таго, сацыялістычная партыя на цяперашні дзень — вельмі аморфная структура, і няма ніякай формулы пераўтварэння яе ў моцную палітсілу. Тым больш, што днямі левая апазіцыя згубіла сваё галоўнае СМІ. Праз эканамічныя праблемы перастала выходзіць блізкая да іх вельмі папулярная газета «Nepszabadsag» («Народная свабода»).

Акрамя таго, сам Орбан, безумоўна, будзе намагацца рэабілітавацца. У першых каментарах наконт фіяска прэм'ер анансаваў хуткую канстытуцыйную рэформу, якая, па яго словах, дазволіць «данесці волю народа». Галоўнай папраўкай у Асноўны закон стане забарона на масавае засяленне асобам, якія не з'яўляюцца грамадзянамі Венгрыі, без згоды венгерскага ўраду. Запусціць рэформу плануецца ўжо напачатку лістапада.

Каб стрымаць імігрантаў-мусульман, распрацоўваецца ўвогуле фантастычны праект. Украінскія СМІ са спасылкай на венгерскае выданне «Heti Valasz» інфармуюць, што ў нетрах ураду Венгрыі рыхтуецца закон, які дазволіць каля ста тысячам украінскіх гастарбайтэраў уладкавацца ў Венгрыі на льготных умовах. Праўда, каб ехаць у Венгрыю, імігрант павінен будзе пагадзіцца на тое, што яго цэнтралізавана размяркуюць на нейкую непапулярную сярод венграў вакансію. Сутнасць гэтага праекту ў тым, каб штучна запоўніць венгерскую квоту на імігрантаў, якую навязвае Брусэль.

Самае кепскае, што вынік галасавання на рэферэндуме сведчыць пра тое, што ксенафобскія настроі ў Венгрыі маюць пад сабой моцную сацыяльную базу. Галасаваць 2 кастрычніка прыйшлі 3,3 мільёна з 8 мільёнаў венгерскіх выбаршчыкаў, з якіх, як адзначалася вышэй, 98% падтрымалі антыімігранцкія прапановы. Такім чынам, як мінімум каля 40 працэнтаў венграў актыўна выступаюць супраць імігрантаў. Сацыялогія сведчыць, што ў сярэднім 9 з 10 венграў адмоўна ставяцца да самога факту перамяшчэння бежанцаў праз краіны Еўропы і да іх рассялення на тэрыторыі краіны.

Таму не выключана, што купоны на крызісе партыі Орбана будуць стрыгчы яго крытыкі ў выглядзе праварадыкальнай партыі «Jobbik», якая ў дадатак мае рэпутацыю лабіста Масквы. У параўнанні з радыкаламі з «Jobbik» Віктар Орбан сапраўды выглядае ўмераным палітыкам. Як піша польская прэса, падзеі кастрычніка 2016 года паказваюць, што цэнтрам палітычнага жыцця Венгрыі да 2018 года стане барацьба дзвюх згаданых правых партый.

У гэтых умовах некаторыя праціўнікі Орбана, напрыклад, левая «Рабочая партыя», каб выглядаць сваёй для венграў, упершыню пачала крытыкаваць міграцыйныя працэсы ў ЕС.

Алег НОВІКАЎ

# На экране «Валынь»

**У Польшчы на мінулым тыдні на шырокія экраны выйшла нашумелая кінастужка рэжысёра Войцеха Смажоўскага «Валынь», якую ў Кіеве адразу назвалі анатоміяй нянавісці да ўкраінцаў.**




Дарэчы, у дзень выхаду ў пракат стужкі адзначыў свой дзень народзінаў Уладзімір Пуцін. Некаторыя ў сувязі з гэтым жартавалі, што «Валынь» стала для яго лепшым падарункам, паколькі відавочна не спрыяе ўкраінска-польскаму дыялогу.

У цэнтры сюжэта фільма лёс дзяўчыны Зосі і яе ўкраінска-польскай сям'і, якая трапіла ў эпіцэнтр трагічных падзей на Валыні ўлетку 1943 года — этнічную чыстку польскага насельніцтва з боку ўкраінскіх нацыяналістаў, калі было забіта, паводле розных ацэнак, ад 30 да 60 тысяч чалавек. У апагеі карціны польскую вёску, дзе жыве Зося, атакуюць украінцы, якія не грэбуюць спаленнем жывых людзей, у тым ліку немаўлят, пад заклікі: «Слава Украіне!» Тым не менш, Зосі з дзіцём удаецца збегчы…

З улікам таго, што рэжысёр «Валыні» мае мянушку «Таранціна» за імпэт да эфектных сцэнаў, не дзіўна, што кадры пагрому сапраўды шакуюць. Нездарма адно з украінскіх выданняў баіцца, што «сцэны спалення дзяцей і старых так урэжуцца палякам у памяць, што на доўгі час заменяць акадэмічныя даследаванні».

Тое, што фільм не абыдзецца без крывавых сцэн з удзелам украінскіх нацыяналістаў, было вядома ад самага пачатку здымкаў. Таксама было зразумела, што такі падыход не спадабаецца нікому. У стужцы актыўна ўказваецца, што пагромы мелі сіметрычны характар з двух бакоў, а сама глеба для канфлікту была створаная перадваеннай палітыкай Варшавы на асіміляцыю Крэсаў.

Аўтар не праігнараваў тэзісы ўкраінскіх гісторыкаў. У сваім кінатворы Смажоўскі паказвае праявы польскага шавінізму ў Заходняй Украіне да 1939 года. На экране глядач таксама ўбачыць і ўкраінцаў, якія дапамагаюць галоўнай гераіні ратавацца ад пагромшчыкаў. Адзін з іх — партызан Украінскай Паўстанцкай Арміі (УПА), які хавае Зосю, каб у выніку стаць ахвярай польскіх партызанаў. Увогуле, для рэжысёра гэта фільм не пра канфлікт паміж народамі, а пра каханне ў трагічныя часы гісторыі.

Аднак спробы гуляць у паліткарэктнасць аказаліся марнымі. У Кіеве фільм усё роўна прызналі антыўкраінскім. «Што аўтар хацеў сказаць гэты фільмам? — задае сама сабе пытанне журналістка выдання «КП в Украине». І адказвае: —Хацеў у чарговы раз паказаць, што мы вінаватыя ва ўсім, а яны ахвяры? Каб людзі сталі асацыяваць трызуб, сіне-жоўты сцяг і лозунг «Слава Украіне!» з жорсткімі нацыяналістамі, якія здзекаваліся з іх продкаў?»

Пра тое, што фільм мае моцны антыўкраінскі імпульс, на думку ўкраінскіх СМІ, сведчыць і рэакцыя аўдыторыі. Літаральна па слядах прэм'еры «Валыні» ў Польшчы быў зафіксаваны выпадак разбурэння пахаванняў байцоў украінскіх нацыяналістычных фармаванняў. Паводле падлікаў украінскага Інстытута нацыянальнай памяці, гэта ўжо дзясяты выпадак знішчэння пахаванняў украінцаў у Польшчы пасля таго, як пытанне валынскай трагедыі набыло актуальнасць. Нагадаем, што ў ліпені польскі Сейм нават прызнаў тыя падзеі «генацыдам палякаў».

Аднак нельга казаць, што фільм выклікаў толькі крытычныя ацэнкі. Кіеўскае інтэрнэт-выданне «Европейская правда» знайшла ў «Валыні» шмат пазітыву. «Цяпер ва ўкраінскіх палітыкаў, гісторыкаў, журналістаў ёсць шанец даць спакойны, аргументаваны адказ, які выслухаюць. Па-другое, дзякуючы фільму Смажоўскага, простыя ўкраінцы змогуць лепш даведацца пра тое, што турбуе іх польскіх суседзяў. Па-трэцяе, сам факт з'яўлення ў шырокім пракаце такой стужкі выб'е аргумент з рук польскіх крайніх правых, якія ў апошнія гады актыўна раскручвалі тэзіс, быццам тэма Валыні адсутнічае ў польскай публічнай прасторы», — піша выданне. Напрыканцы сваёй рэцэнзіі яе аўтар заклікае паказаць «Валынь» як мінімум па ўкраінскім тэлебачанні.

Згодныя з гэтым і польскія медыя. Выданне «Wsieci», напрыклад, сцвярджае, што Смажоўскі сваім фільмам узарваў міну, моцнасць якой з часам толькі ўзрастала, і, калі б не фільм, рэха выбуху той міны магло быць вельмі гучным.

Блізкія да ўкраінскай апазіцыі выданні спадзяюцца, што «Валынь» прымусіць урад у Кіеве падкарэктаваць новыя канцэпцыі афіцыйнай гістарыяграфіі. Яны, як правіла, грунтуюцца на гларыфікацыі радыкальных нацыяналістаў, якія маюць у суседніх народаў адмоўны імідж. Нагадаем, што яшчэ не забыўся скандал вакол выступу прэзідэнта Ізраіля ў Вярхоўнай Радзе, які абвінаваціў нацыяналістаў у масавых забойствах яўрэяў у часы вайны. Афіцыйныя ўкраінскія гісторыкі кінуліся аспрэчваць удзел нацыяналістаў у Халакосце, што выклікала занепакоенасць сярод яўрэйскай і еўрапейскай грамадскасці.

Найбольш брутальныя прагнозы наконт наступстваў «Валыні» выдаюць расійскія СМІ. «РИА Новости» не выключае, што «барацьба двух варыянтаў нацыянальнай памяці выплюхнецца на побытавы ўзровень. Тады будуць магчымымі не толькі вострыя і бесстароннія славесныя выбрыкі, але і выпадкі фізічнага ўздзеяння».

Ці сапраўды мастацкі фільм здольны сапсаваць украінска-польскія адносіны да стану фізічных разборак, распавядае ў сваім каментары НЧ кіеўскі журналіст **Юрый Палянін**:

— Я не думаю, што стужка «Валынь» усур'ёз паўплывае на цяперашнюю атмасферу адносінаў. Не так даўно ў Польшчы выйшаў палітызаваны фільм «Смаленск» з гучнай версіяй пра датычнасць Масквы да забойства польскага прэзідэнта Леха Качыньскага. Ужо цяпер пра «Смаленск» усе забыліся. Тое ж самае чакае і «Валынь», якая проста згубіцца ў кінарэпертуары. Значна больш «таксічная» для адносінаў з Польшчай — нарастаючая напружанасць на польскім працоўным рынку, дзе ўжо зараз паўтара мільёна ўкраінцаў, і колькасць мігрантаў праз крызіс украінскай гаспадаркі толькі расце. Шмат хто з іх нелегальна дэмпінгуе на рынку працы, стымулюючы побытавую антыўкраінскую ксенафобію значна мацней, чым стужкі накшталт «Валыні».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Андрэй Бабіч



Партыя чэшскага міністра фінансаў і алігарха «ANO 2011» стала пераможцам на рэгіянальных і сенатарскіх выбарах 9 кастрычніка. Перамогу яна атрымала ў 9 з 13 рэгіёнаў краіны, і перш за ўсё выйграла ва ўрадавай партыі сацыял-дэмакратаў. Усяго ў «ANO 2011» 176 мандатаў мясцовых дэпутатаў супраць 122 у эсдэкаў.

Выбары ў Чэхіі яшчэ раз засведчылі, што традыцыйныя партыі, якія дамінавалі на палітсцэне краіны пасля краху камунізму, знаходзяцца ў крызісе. На першыя ролі паступова выходзяць новыя партыі — на жаль, выразна папулісцкага характару. Так, Андрэй Бабіч de facto з'яўляецца ўладальнікам «ANO 2011» і кіруе ёй як сваёй фірмай. Акрамя таго, Бабіч вядзе вельмі агрэсіўную палітыку на рынку медыя. Такія гранды чэшскай прэсы, як «Mlada Fronta», «DNES» і «Lidove Noviny» сталі часткай яго холдынгу.

Так ці інакш, пасля 9 кастрычніка партыя Бабіча становіцца фаварытам наступных выбараў, а сам алігарх — кандыдатам нумар адзін у прэм'еры. У выпадку яго прыходу да ўлады, Чэхію чакае цікавы час. З аднаго боку, «ANO 2011» арыентуецца на досвед ліберальных партый Захаду, з іншага — ёсць інфармацыя, што да "аксамітнай рэвалюцыі" Бабіч быў моцна звязаны з камуністычнымі спецслужбамі.

### Марын Ле Пэн



Лідарка французскай правапапулісцкай партыі «Нацыянальны Фронт» (FN) на мінулым тыдні была выклікана ў суд па іску, які падаў супраць яе… бацька Жан-Мары. 87-гадовы Жан-Мары намагаецца праз судовыя інстанцыі аспрэчыць рашэнне кіраўніцтва FN выключыць яго з партыі, якую, дарэчы, ён сам і заснаваў. На думку Жан-Мары Ле Пэна, яго выключылі з парушэннямі партыйнага статуту.

Вынік працэсу можа моцна паўплываць на ход будучай прэзідэнцкай кампаніі. Выбары прэзідэнта адбудуцца ў сакавіку, аднак фактычна кампанія ўжо стартавала. Менавіта каб палепшыць рэйтынг FN сярод часткі буржуа, у свой час Марын выключыла з партыі бацьку. Апошні дазваляў сабе шакуючыя ў вачах публікі пасажы — падтрымліваў Халакост, заклікаў вярнуць Алжыр у склад Францыі і патрабаваў звольніць прэм'ера, паколькі той мае іспанскае паходжанне. Сёння Жан-Мары ірвецца назад у партыю, і ў тым ліку, каб самому балатавацца на прэзідэнта.

Аднаўленне сяброўства бацькі ў FN, на думку 87 працэнтаў французаў, стане вялікай праблемай для Марын. Цяперашні судовы працэс абяцае быць вельмі скандальным. Атачэнне Жана-Мары кажа, што дачка нават плануе забойства бацькі.

### Міхаіл Саакашвілі



Вынікі парламенцкіх выбараў 8 кастрычніка ў Грузіі выклікалі шмат пытанняў наконт будучыні губернатара Адэскай вобласці, былога прэзідэнта Грузіі і кіраўніка тамтэйшай партыі «Адзіны нацыянальны рух». Ягоная партыя прайграла на выбарах, атрымаўшы па партыйных спісах каля 27 працэнтаў галасоў, хаця разлічвала на перамогу. Параза ставіць крыж на вяртанні Саакашвілі на радзіму, паколькі, будучы там пад следствам, ён мог вярнуцца выключна пры ўмове перамогі яго палітсілы. Акрамя таго, нават яго аднапартыйцы прызнаюць, што апазіцыі патрэбны новы свежы лідар.

Незразумелая і кар'ера грузіна ва Украіне, паколькі тут імідж Саакашвілі будаваўся на міфе пра поспех ягоных грузінскіх рэформаў. Вынікі выбараў 8 кастрычніка разбураюць гэты стэрэатып. Скарыстаўшыся правалам партыі Саакашвілі, ягоныя праціўнікі ў Адэсе актывізаваліся і ўжо дамагліся, што супраць адэскага губернатара была распачатая крымінальная справа.

Аднак трэба прызнаць: Саакашвілі здавацца не збіраецца. Ён ужо заклікаў да байкоту другога мажарытарнага туру выбараў у Грузіі. Акрамя таго стала вядома, што Саакашвілі плануе перабрацца ў Кіеў, то бок разлічвае на нейкую міністэрскую пасаду.

# Слова пра Уладзіміра Хлябцэвіча

Сяргей ЧЫГРЫН

**На пахаванне гэтага юнака сабралася каля 20 тысяч чалавек, яго імем названа адна з вуліц расійскага горада Сырзань, а яго надмагільны камень даўно патрабуе аднаўлення. У Беларусі пра Уладзіміра Хлябцэвіча амаль нічога не вядома.**

У беларускага гісторыка, педагога і праваслаўнага святара Івана Хлябцэвіча (1857–1919) выхоўвалася шасцёра дзяцей. Але найбольш здольнымі раслі два сыны — Яўген і Уладзімір.

Яўген Хлябцэвіч быў старэйшы за брата на 10 гадоў. У свой час ён скончыў духоўную семінарыю ў Вільні і Пецярбургскі ўніверсітэт. Прымаў актыўны ўдзел у літаратурна-грамадскім руху ў Пецярбурзе, займаўся бібліятэказнаўствам, перакладамі з беларускай мовы на рускую, абараніў кандыдацкую дысертацыю, быў знаёмы і сябраваў са многімі беларускімі дзеячамі, у тым ліку з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Цёткай.

Пра Яўгена Хлябцэвіча я шмат разоў пісаў у сваіх кнігах. Жыццё і яго творчасць даследаваў таксама літаратуразнавец і архівіст Віталь Скалабан (1947–2011). А вось пра яго малодшага брата Уладзіміра Хлябцэвіча (1894–1917) публікацый і даследаванняў у друку амаль не было. За выключэннем невялікіх згадак. Але, першы чым пра яго сёння распавесці, хачу пару слоў сказаць пра бацьку Яўгена і Уладзіміра Хлябцэвічаў (нарадзіліся ў Жыровічах Слонімскага павета) Івана Андрэевіча.

Родам Іван Хлябцэвіч (1857–1919) быў з Ваўкавышчыны. Скончыў праваслаўную Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, вучыўся ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Выкладаў у Жыровіцкім духоўным вучылішчы арыфметыку і геаграфію. Але галоўным яго клопатам і заняткам была слынная бібліятэка Жыровіцкага Свята-Успенскага мужчынскага манастыра. Там зберагаліся рукапісныя беларускія кнігі з адмысловымі ілюстрацыямі і летапісы ў скураных пераплётах і старадрукі. Іван Хлябцэвіч упарадкаваў старажытныя рукапісы, ён склаў падрабязны каталог, упарадкаваў і сам ашчадна захоўваў гэтыя скарбы. Хлябцэвіч-старэйшы вельмі цікавіўся і гісторыяй Беларусі, меў і літаратурны талент. У Віленскіх часопісах ён публікаваў артыкулы на рэлігійныя і гістарычныя тэмы.

У 1897 годзе Іван Хлябцэвіч з сям'ёй пераехаў у вёску Кленікі Бельскага павета (Беласточчына), дзе служыў свяшчэннікам. У Кленіках Хлябцэвічы пражылі 18 гадоў — да пачатку Першай сусветнай вайны, адкуль іх потым выгналі ў бежанства ў расійскі горад Сызрань. Дамоў Хлябцэвічы з Расіі ўжо ніколі не вярнуліся.



Уладзімір Хлябцэвіч. Фота друкуецца ўпершыню



Д.6523
Вѣнокъ отца на могилу сына.
ЖЕРТВА ВЕЛИКОЙ РЕВОЛЮЦІИ.
КРАТКІЙ БІОГРАФИЧЕСКІЙ ОЧЕРКЪ СТУДЕНТА В. И. ХЛѢБЦЕВИЧА.
Составилъ Протоіерей Іоаннъ Андреевичъ Хлѣбцевичъ.
Сызрань, типографія Н. А. Журкина.
Весь сборъ за эту книгу поступаетъ въ фондъ на сооруженіе ПАМЯТНИКА на могилѣ В. ХЛѢБЦЕВИЧА.

Першая старонка кнігі Івана Хлябцэвіча пра сына Уладзіміра

Жывучы Кленіках, Іван Хлябцэвіч арганізаваў некалькі беларускіх пачатковых школ, спажывецкае таварыства, быў загадчыкам бясплатнай народнай бібліятэкі, наладзіў самыя шчырыя сяброўскія адносіны з мясцовымі сялянамі. Побач з адукаваным бацькам і прайшло маленства і юнацтва самага малодшага сына Уладзіміра. Ды й Яўген часта прыязджаў на розныя вакацыі дамоў у Кленікі.

Валодзя спачатку вучыўся дома, а пасля ў гімназіі. У 1913 годзе ён скончыў гімназію, а яго брат Яўген — Пецярбургскі ўніверсітэт. І Яўген параіў брату паступаць у гэты ўніверсітэт. І Валодзя паступіў на фізіка-матэматычны факультэт. Там ва ўніверсітэце Яўген Хлябцэвіч знаёміць Валодзю з Браніславам Ігнатавічам Эпімах-Шыпілам. Першая сустрэча адбылася каля ўваходу ва ўніверсітэцкую бібліятэку, дзе Браніслаў Эпімах-Шыпіла выпісваў студэнтам чытацкія білеты. Але мала хто тады ведаў, што Браніслаў Іванавіч быў апекуном маладога Янкі Купалы, арганізатарам выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», кіраўніком студэнцкага беларускага гуртка.

Прафесар Эпімах-Шыпіла дапамагаў беларусам-студэнтам выбраць свой шлях — свой правільны шлях — і абуджаў гэтых студэнтаў як беларусаў. Гэта былі незабыўныя сустрэчы і падзеі. З лёгкай рукі Браніслава Эпімах-Шыпілы Уладзімір Хлябцэвіч напісаў этнаграфічны нарыс пра сваю вёску Кленікі. Дарэчы, гэты нарыс на рускай мове друкаваўся ў выданні «Białoruskie zeszyty historyczne» (1995, № 2(4). Ён так і называўся «Село Кленики перед беженством — во время мировой войны». А напісаўся ён аўтарам 17 верасня 1915 года.

Гэты нарыс некалі брат Валодзі Яўген Хлябцэвіч перапісаў сваёй рукой. Дзякуючы таму ён захаваўся да нашых дзён. І зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.

25 верасня 1915 года, пасля таго, як разам з маці і бацькам Уладзімір Хлябцэвіч падаўся з Кленікаў у бежанства, ён роднаму брату Яўгену пісаў: «Усе вёскі гарэлі пры непрысутнасці нашых людзей. Кнігі (10 скрыняў) закапаны ў вельмі надзейным месцы. Там тваё ўсё. Закапвалі я і Маліш. Твае рукапісы пра беларускіх пісьменнікаў і лісты іх тожа былі схаваныя там, у скрынях. Я ведаю дзе...» («Часопіс Białoruskie zeszyty historyczne», 1995, № 2(4). С. 135).

Гэтыя скрыні ў вёсцы Кленікі на Беласточчыне шмат гадоў шукала настаўніца беларускай мовы і літаратуры мясцовай школы Марыя Базылюк (Марыйка — як яе ласкава называлі вяскоўцы і беларускія літаратары ў Польшчы). У гэтых скрынях захоўваецца невядомы літаратурны скарб Хлябцэвічаў. І Марыя Базылюк яго шукала, а таксама сама даследавала творчасць брата Уладзіміра Хлябцэвіча Яўгена. Яна нават напісала, калі была студэнткай, магістарскую дысертацыю на тэму «Жыццё і дзейнасць Яўгена Хлябцэвіча на фоне перыяду «Нашай нівы», якая была апублікавана ў кнізе яе памяці «Марылька» (Беласток, 2011).

Але так склаўся лёс, што гэтыя скрыні Марыі Базылюк знайсці не ўдалося. Яе зламала хвароба ў 1996 годзе ва ўзросце 38 гадоў. Цікава, якія рукапісы Яўгена Хлябцэвіча ляжаць у тых скрынях? Пісьмы якіх пісьменнікаў захоўвае гэты скарб на Беласточчыне? Можа, там лісты ад Янкі Купалы, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Горкага? Ён шчыра з імі сябраваў, сустракаўся, перапісваўся. Цяпер цяжка сказаць, хто той скарб адшукае. І ці адшукаецца ён наогул. Усё ж прайшло з таго часу больш за 100 гадоў.

Хлябцэвічы апынуліся аж у расійскім горадзе Сызрань.

> Цікава, якія рукапісы Яўгена Хлябцэвіча ляжаць у тых скрынях? Пісьмы якіх пісьменнікаў захоўвае гэты скарб на Беласточчыне? Можа, там лісты ад Янкі Купалы, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Горкага? Цяпер цяжка сказаць, хто той скарб адшукае

У пачатку студзеня 1917 года Уладзімір прыехаў да бацькоў на калядныя вакацыі. А 15 студзеня зноў паехаў на вучобу ў Петраград (Пецярбург). Ды і вучыўся ўжо на 4 курсе.

У Расіі ў гэты час пачынаецца Лютаўская рэвалюцыя. Не стаяў убаку ад яе і Уладзімір. На Васільеўскім востраве ў Петраградзе яшчэ грымелі стрэлы. Туды на разведку быў накіраваны Уладзімір Хлябцэвіч, які дзяжурыў у Таўрычаскім палацы. Але хутка іх аўтамабіль трапіў пад абстрэл. Першай была паранена сястра міласэрнасці Алена Шуп. Хлябцэвіч хацеў ёй дапамагчы. Але кулямётная чарга смяротна параніла юнака.

Цела Івана адвезлі да бацькоў у Сызрань. Яго пахавалі 19 сакавіка 1917 года ў «гарадскім садзе на Сімбірскай вуліцы» (цяпер Кузнецкі мост). На пахаванне прыйшлі каля 20 тысяч чалавек.

Пазней у Сызрані назавуць адну з вуліц імем Уладзіміра Хлябцэвіча, якая існуе і сёння. А на яго магіле ляжыць мемарыяльная пліта, якая даўно патрабуе аднаўлення.

Смерць малодшага сына Валодзі бацька Іван Андрэевіч Хлябцэвіч моцна перажываў. Ён пераехаў з горада ў вёску Абшараўка Самарскага павета Самарскай губерні Расіі. Стаў моцна хварэць. Але вёў вялікую перапіску з сябрамі і з землякамі-бежанцамі. Ён напісаў на рускай мове невялікую кніжачку (47 старонак) «Краткий биографический очерк студента В.И.Хлебцевича» і выдаў у Сызранькай друкарні Журкіна пры фінансавай дапамозе свайго сябра Аляксея Ерамасава.

Іван Андрэевіч Хлябцэвіч пасля смерці сына Валодзі пражыў толькі два гады і памёр 25 ліпеня 1919 года ў Абшараўцы, дзе і пахаваны.

У Расійскім Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва ў Маскве (ф.539 і ф.1563) захоўваецца шмат дакументаў, звязаных і жыццём і дзейнасцю Уладзіміра Хлябцэвіча. Гэта найперш лісты Уладзіміра да сваіх бацькоў, братоў і сёстраў, невядомай спадарыні Вользе, лісты сваякоў Уладзіміра Хлябцэвіча невядомай асобе са зваротам «Верачка» ў сувязі са смерцю Уладзіміра, развітальны ліст бацькі Івана Андрэевіча, ліст Алены Шуп (сястра міласэрнасці) Івану Андрэевічу Хлябцэвічу пра апошнія хвіліны жыцця Уладзіміра і іншыя.

Ёсць у фондах і артыкулы, вершы Уладзіміра Хлябцэвіча. Захоўваюцца і тэлеграмы сваякоў і студэнтаў Петраградскага ўніверсітэта сям'і Уладзіміра Хлябцэвіча з паведамленнем пра яго смерць і са спачуваннямі. Ёсць у фондах архіва і ўспаміны Светавастокава пра Уладзіміра, артыкулы пра яго, выразкі з газет і малюнкі, бо Валодзя быў яшчэ добрым мастаком-партрэтыстам. На вялікі жаль, нікога пакуль з беларусаў гэтыя дакументы пра Уладзіміра Хлябцэвіча не зацікавілі. Ды калі і хто іх даследуе?.. На гэта пытанне сёння цяжка адказаць.



На прысязе Беларусі 8 верасня 1992 года



Ускладанне вянка на Вайсковых могілках 8 мая 1993 года



На прысязе Беларусі 8 верасня 1992 года

# Чвэрць стагоддзя Беларускаму згуртаванню вайскоўцаў

Алесь СТАНКЕВІЧ

**Дваццаць пяць гадоў таму, 12–13 кастрычніка 1991 года, адбыўся Устаноўчы сход Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ). У сталіцу прыбылі дэлегаты і госці з розных акругаў і гарнізонаў СССР. За два дні плённай працы былі прынятыя важныя дакументы, пазначаныя напрамкі дзейнасці, абрана кіраўніцтва, у перапынках адбываліся сустрэчы сяброў, новыя знаёмствы, дыскусіі. Сваімі ўражаннямі пра тыя падзеі дзеліцца адзін з заснавальнікаў БЗВ Алесь Станкевіч.**

Чвэрць стагоддзя мінула, як тыдзень. Знoўку восень, палова кастрычніка, як і тады, хіба што дажджу болей. Памяць вяртае ў мінулае, старонкі жыцця віртуальна гартаюцца назад. Час аналізаў і адзнак.

— Стварэнне БЗВ на хвалі путчу 1991 года не было спантанным ці вымушаным, і выступ падпалкоўніка, кандыдата навук з МВІЗРВ Мікалая Статкевіча на плошчы Леніна падчас шматтысячнага мітынгу са зваротам да вайскоўцаў і грамадскасці — гэта не была «дэкларацыя аб намерах».

«Жнівеньскі путч 1991 года ў Маскве паказаў дэмакратычным партыям і іх лідарам, што ў Беларусі няма сілы, якая была б здольная бараніць дэмакратыю і суверэнітэт краіны. Таму, па ініцыятыве кадравых вайскоўцаў і вайскоўцаў запасу, сябраў дэмакратычных партый было прынята ўзгодненае рашэнне аб стварэнні надпартыйнага патрыятычнага руху з ліку кадравых вайскоўцаў», — напісаў удзельнік тых падзеяў, маёр Міхал Варанец у сваёй дыпломнай працы на гістфаку БДУ.

Да паловы дня 20 жніўня было створанае Беларускае аб'яднанне вайскоўцаў (БАВ), у якое ўвайшлі: ад Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі — падпалкоўнік запасу Эдуард Райко і маёр Уладзімір Грыневіч, ад БНФ — падпалкоўнік Генадзь Банкевіч і шараговы Віктар Івашкевіч, ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады — падпалкоўнік Мікалай Статкевіч і лейтэнант Сяржук Чыслаў, ад сялянскай партыі — капітан МУС Васіль Пятачэнка, маёр Мікола Хіўрэнка… Усяго дзесяць асобаў. Старшынёй абралі Мікалая Статкевіча, які ў той жа вечар і выступіў на плошчы перад мітынгоўцамі з заявай аб стварэнні БАВ і са зваротам да вайскоўцаў «не выконваць загады, што зыходзяць ад неканстытуцыйнага органу, які адхіліў ад улады прэзідэнта СССР і галоўнакамандуючага УС». Прагучала заява пра мэты арганізацыі, дзе дэкларавалася неабходнасць стварэння беларускага войска.

Аргкамітэт наладзіў кантроль за перамяшчэннямі войскаў у Мінску.

Пасяджэнне БАВ 29 жніўня праходзіла ў адной з аўдыторый БДУ і мела ўжо пашыраны склад. Акрамя мяне (я тады быў маёрам, выкладчыкам пачатковай вайсковай падрыхтоўкі) дадаліся падпалкоўнік-палітработнік Уладзімір Савянок, капітан Алесь Карлюкевіч, вайсковы журналіст, падпалкоўнік Мікалай Бірукоў, кандыдат навук, выкладчык МВІЗРВ маёры Курбан Гельдыеў і Міхал Варанец з гарнізону Печы.

**БЗВ з'яўляецца непалітычным грамадска-патрыятычным рухам, які садзейнічае стварэнню беларускага войска**

На пасяджэнні былі прынятыя рашэнні прыняць назву «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў», ператварыць аргкамітэт у Каардынацыйную Раду, абраць намеснікам падпалкоўніка Уладзіміра Савянка, абраць Выканаўчую раду ў складзе Статкевіча, Бірукова, Цялькоўскага. Былі створаны шэраг камісій, прынятыя часовы (да з'езду) Статут БЗВ.

Увесь верасень і пачатак кастрычніка былі прысвечаны падрыхтоўцы Устаноўчага з'езду. І вось 12 кастрычніка з раніцы мінскі Дом літаратараў прымаў дэлегатаў, гасцей, прэсу. У вестыбюлях абодвух паверхаў былі абсталяваны стэнды з матэрыяламі дзейнасці сяброў БЗВ у розных гарнізонах, прапановы па абмундзіраванні, знаках адрознення, узнагародах, фотаздымкі, газеты Станіслава Судніка з Казахстану «Рокаш», працавалі шапікі па распаўсюду беларускай літаратуры, сувеніраў, луналі нацыянальныя сцягі і харугвы продкаў-ваяроў…



На мітынгу ў скверы Янкі Купалы 21 сакавіка 1993 года

Афіцыйна прынялі ўдзел у з'ездзе 119 дэлегатаў, 26 гасцей з іншых рэспублік, 14 сродкаў масавай інфармацыі. На парадку дня былі разгледжаны справаздача пра вынікі працы і мэты БЗВ, зацверджаны Статут БЗВ, пастанова аб стварэнні БЗВ, зварот да беларускага народу. У спрэчках па дакладзе выступілі 12 чалавек.

У Статуце было запісана: «Арганізацыя БЗВ з'яўляецца непалітычным грамадска-патрыятычным дабраахвотным рухам», які «садзейнічае стварэнню беларускага войска» і дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, абараняе правы беларускіх вайскоўцаў.

Асабліва запамінальнымі былі выступы Міхася Ткачова, прафесара гісторыі, старшыні БСДГ, падпалкоўніка Станіслава Судніка, які стварыў у гарнізоне ў Казахстане нядзельную беларускую школу і выпускаў газету «Рокаш», Зянона Пазьняка, лідара БНФ, дэпутата Вярхоўнага Савета маёра Валера Косткі, таксама дэпутата, маёра Віктара Шэймана, палкоўніка Вілена Марцірасяна дэпутата Вярхоўнага Савету СССР і старшыні Саюза афіцэраў Украіны, падпалкоўніка Вікенція Чорнага, кандыдата навук з Калініна.

У перапынку была закладзена традыцыя ўскладання кветак да помніку ахвярам Другой сусветнай вайны на Вайсковых могілках, якая кожны год адзначаецца, праўда, ужо 8 мая.

Напрыканцы першага дня з'езду дэлегаты ў вайсковых строях пад бел-чырвона-белымі сцягамі, з пераможнымі харугвамі Грунвальду і Воршы рушылі калонай ад Дома літаратара праспектам Скарыны да помніку Купалу (гэта было першае шэсце БЗВ), дзе адбываўся рок-канцэрт у наўпроставым эфіры БТ. Вядучы Віталь Сямашка запрасіў да мікрафону Мікалая Статкевіча, і той зачытаў у эфір «Зварот да Вярхоўнага Савету, палітычных партый і народа Беларусі». Журналістка Галіна Айзеншат напісала потым: «І ўсё ж самы моцны псіхалагічны момант быў тады, калі ваеннаслужачыя ішлі пад Грунвальдскімі сцягамі. Ад Дому літаратара да помніку Купалу ўсяго два кварталы. Але была пройдзена куды большая адлегласць. Адлегласць паміж мінулым, калі была страчана дзяржаўнасць, і сучасным, калі яна адраджаецца».

Такімі былі першыя крокі БЗВ.

Сёння гэта стала ўжо гісторыяй. Час мінуў, забраў ад нас шмат сяброў, сярод якіх Кастусь Жвірко, Генадзь Банкевіч, Мікалай Бірукоў, Артур Вольскі. Нехта апынуўся па за межамі Беларусі: Уладзімір Савянок — у ЗША, Уладзімір Барадач — у Германіі. Але днямі група ветэранаў збярэцца цёплым колам, каб узгадаць мінулае, пагутарыць пра надзённае. Так што БЗВ жыве і віншуе ўсіх, хто спрычыніўся да яго дзейнасці, віншуе з юбілеем і выказвае ўпэўненасць у тым, што мы па-ранейшаму разам.

Здароўя вам, сябры! Жыве Беларусь!

**Для даведкі:**

БЗВ прымала ўдзел у распрацоўцы дакументаў, накіраваных на фарміраванне беларускага войска і правядзенне вайсковай рэформы: правяло рэспубліканскую акцыю «Урок патрыятызму», у межах якой падрыхтаваны і змешчаны ў перыядычным друку кароткі нарыс вайсковай гісторыі Беларусі «Забытая слава» (1992).

У сакавіку 1992 года выступіла ініцыятарам і арганізатарам падпісання «Антыкрызіснага пагадненні супраць знешняй пагрозу суверэнітэту Рэспублікі Беларусь», якое аб'яднала ўсе патрыятычныя сілы рэспублікі.

8 верасня 1992 года, падчас першага святкавання Дня беларускай вайсковай славы, па ўсёй краіне — у Мінску, Гродна, Брэсце і іншых гарадах — прайшла масавая акцыя прыняцця прысягі на вернасць Беларусі вайскоўцаў і вайскоўцаў запасу.

На сталічнай плошчы Незалежнасці, стоячы ў форме перад вялікай грамадой людзей, прынялі прысягу 15 афіцэраў-актывістаў БЗВ. На працягу года 12 з іх былі звольненыя з войска, потым чарга дайшла і да іншых.

16 лютага 1994 года Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь спыніў дзейнасць БЗВ за ахову забастоўкі рабочых у Мінску. Тады ж быў створаны аргкамітэт патрыятычнага руху БЗВ, 10 сакавіка 1995 года зарэгістраваны Патрыятычны рух БЗВ запасу, асобаў у адстаўцы і іншых грамадзян.

У 2000 годзе Беларускае згуртаванне вайскоўцаў не прайшло перарэгістрацыю і было ліквідавана дэ-юрэ.

# Падлеткі з Беларусі прадставяць італьянскую моду

Вікторыя ЧАПЛЕВА




**У Беларусі — XVI Сусветны тыдзень італьянскай мовы «Італьянская мова і творчасць: брэнды і традыцыі, мода і дызайн». Увесь кастрычнік нас чакае шэраг цікавых імпрэзаў.**

Разынкай усіх мерапрыемстваў, якія ладзіць Пасольства Рэспублікі Італія ў Рэспубліцы Беларусь, стане VII паказ «Мода Італія». На ім беларусам будзе прадстаўлена калекцыя «Вясна-лета–2017». У Беларусь прывязуць лепшыя італьянскія распрацоўкі.

Паверыць, што беларусаў чакае сапраўды нешта арыгінальнае і якаснае — лёгка. А вось ці будуць беларусы купляць італьянскія калекцыі? Пасол Італіі ў Беларусі Стэфана Б'янкі заверыў, што, нягледзячы на крызіс, беларусы гатовы падтрымліваць італьянскую прадукцыю.

Дызайнер Лукі Бінальі, які прыехаў у Мінск, лічыць, што дызайнеры ўсяго свету кожную раніцу пачынаюць з прыгодаў. І зараз Беларусь — адна з такіх прыгод. «Чаму б ні паспрабаваць?» — рытарычна запытаўся ён.

Ужо традыцыйным для Пасольства Італіі стала супрацоўніцтва з ЮНІСЭФ у Беларусі.

У мінулым годзе, дзякуючы праекту ЮНІСЭФ у Беларусі, дзіцячую вопратку дэманстравалі дзеці з асаблівасцямі развіцця. Сёлета вопратку будуць дэманстраваць падлеткі, якія парушылі закон і знаходзяцца ў карэкцыйных цэнтрах.

«Мы, як арганізацыя ЮНІСЭФ, маем доступ да карэкцыйных цэнтраў, — распавёў прадстаўнік ЮНІСЭФ у Беларусі Рашэд Мустафа Сарвар. — Таму для нас нескладана абраць падлеткаў, якія б змаглі паўдзельнічаць у праекце. Для іх таксама будуць арганізаваны майстар-класы ад італьянскіх дызайнераў. Чаму менавіта падлеткі? Таму што гэта асаблівы слой грамадства. І да іх патрэбны асаблівы падыход. Калі пасля карэкцыйнага цэнтру яны вернуцца ў грамадства, ім патрэбна будзе ў яго ўліцца».

На працягу Тыдняў італьянскай мовы ў Мінску пройдзе шмат адкрытых майстар-класаў па італьянскім дызайне. Трэнеры — выкладчыкі Новага інстытута дызайну Перуджы, які вядомы сваёй школай дызайну.

Салон італьянскай мэблі «New Studio» выступае пляцоўкай як для майстар-класаў, так і для выстаў. Менавіта тут размесціцца экспазіцыя італьянскіх прадметаў побыту і вопраткі. Тут жа ўпершыню ў Беларусі будуць прадстаўлены працы скульптара Стэфана Расэлі, у аснове якіх ляжыць тэма сэрца як эмпатычнага сімвалу італьянскага крэатыву.

У праграме запланаваны канцэрт вялікага майстра-лютаніста Прыма Кантавалі, музыкальная прэм'ера оперы «Травіята».

Таксама ў Акадэміі навук Беларусі італьянскія даследчыкі славянскай літаратуры выступяць з адмысловымі дакладамі.

# Беларуская вёска вачыма польскай даследчыцы

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Аповед беларускіх калгаснікаў пра іх саміх, занатаваны польскай прафесаркай Ганнай Энгелькінг, атрымаў прэмію VI Кангрэса даследчыкаў Беларусі ў Коўне. Спадарыня Энгелькінг распавяла пра свае навуковыя інтарэсы ў Беларусі.**



***— Вы сказалі, што даследуеце беларускае Палессе з 1993 года...***

— Не толькі Палессе. Я пачынала з Гродзеншчыны, першыя даследаванні праводзіла ў ваколіцах Ліды, там вельмі цікавая сітуацыя: побач знаходзяцца праваслаўныя і каталіцкія вёскі, населеныя пункты са змяшаным насельніцтвам, а даўней там былі шляхецкія аколіцы. Вельмі разнародная мясцовая супольнасць. Працавала ва Усходняй Беларусі: на Мазыршчыне, на Магілёўшчыне, але там меней, чым на Палессі. У маёй кніжцы пра калгаснікаў хацела паказаць цэлую краіну, каб былі сведчанні з розных яе частак.

***— Вы шукалі пад Лідай польскасць ці канцэнтраваліся на іншых аспектах?***

— Я ніколі не шукаю польскасць, гэта асноўная памылка польскіх даследчыкаў Беларусі. Тое, што завецца «польскасцю», трэба даследаваць разам з іншымі з'явамі, напрыклад, «рускасцю». Мяне ж цікавіла мапа адрозненняў лакальных супольнасцяў, адрозненняў, якія яны самі і ствараюць. Тое, што думаюць людзі, і карціна ў галаве даследчыка могуць значна адрозніваццa. Навуковец павінны зразумець шлях мыслення мясцовых, а не праектаваць на іх уласныя ўяўленні.

***— Калі вы пачыналі даследаванні Беларусі, то прыязджалі самі ці наладжвалі кантакт з нашымі навукоўцамі?***

— Мы пачыналі разам са студэнтамі, з першага выезду супрацоўнічалі з беларускімі даследчыкамі, нашым калегам і настаўнікам быў прафесар Вячаслаў Вярэніч з беларускай Акадэміі навук, мовазнаўца, даследчык Палесся і балта-славянскага памежжа. На жаль, ён ужо памёр. Ездзіў з намі пад Ліду, на Палессе, мы шмат чаму ад яго навучыліся. Я і цяпер супрацоўнічаю са шматлікімі навукоўцамі з Мінска (у наступным годзе рыхтуецца да выхаду артыкул Ганны Энгелькінг у зборніку «Беларускі фальклор» Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук).

***— Вы вывучаеце вёску з антрапалагічнай перспектывы. Ці ёсць сёння ў Польшчы нейкая антрапалагічная школа, адзіная метадалогія антрапалагічных даследаванняў?***

— Сёння складана казаць пра школы. Сучасная антрапалогія дзеліцца на розныя падспецыяльнасці, гэта вельмі пашыраная галіна гуманітарных ведаў. Але тое, што лучыць методыку розных антрапалагаў, іх палявыя даследаванні — імкненне завязаць з людзьмі, жыццё якіх мы даследуем, кантакты на аснове ўзаемнай павагі. Размова — гэта абмен думкамі, антраполаг імкнецца зразумець пункт гледжання, шлях мыслення тых, з кім гутарыць «у полі». Зразумець і «перакласці» на мову сваіх, навуковых катэгорый.

***— Якія тэмы падчас палявых даследаванняў вас найбольш цікавяць?***

— Пра што б ні казаў суразмоўца — пра вайну і Халакост ці пра калектывізацыю, ці пра адносіны з суседам — ён кажа ў першую чаргу пра сябе, сваю гісторыю. Як перажывалі падзеі, якія маюць з гэтай нагоды пачуцці і эмоцыі. Тэма кніжкі пра калгаснікаў — калектыўная свядомасць вёскі, нарацыя пра гэту свядомасць. Які досвед вясковая супольнасць, людзі, што зараз сябе вызначаюць як «калгаснікі», атрымалі ад перажытых падзей. Фактычна, мая кніга — гэта аповед беларускіх калгаснікаў пра іх саміх.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня

Всего

Кассир

# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда; (8029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20** капеек, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 996

Падпісана да друку 14.10.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.